# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 11 (273) 22—28 сакавіка 1997 г. КОШТ 2000 РУБ.

ДЫСКУТУЕ•ПРЭЗЕНТУЕ•РАЗВАЖАЕ









ЭКСКЛЮЗІЎ "К"
Стар. 2


## SOS З ОПЕРНАГА

...Выпадкова ці не, але менавіта 10 сакавіка, у 1939 годзе, адкрыўся галоўны тэатр Беларусі — Вялікі. Зараз будынак тэатра, які быў узведзены ўсяго за тры гады па праекце вядомага архітэктара Лангбарда, — несумненна адзін з найбольш яскравых сімвалаў Мінска. Несумненна таксама, што час накладвае адбітак на будынак, не спрыяе паляпшэнню ўмоваў творчай працы тых, для каго ён стаў другім домам.


Стар. 2—3


*Ўвесь свет — тэатр,*
*Акцёр жа — Чалавек!*
*І СТД — няпоўны век...*
*Калаж-кактэйль з*
*"Крывавай Мэры"*
*мы*
*дорым вам.*
*І будзем верыць —*
*у Тэатр!*

"К"

*50*

ЭКЗЕРСІСЫ ФРАНКАФОНІІ


Стар. 8—9


Калаж Наталлі ОВАД. Фота Генадзя ЖЫНКОВА. Ідэя "К".

№ 11 22 — 28 сакавіка 1997 г.



# НЕ ЮБІЛЕЙНАЕ...

***Беларускі Саюз тэатральных дзеячаў на днях святкуе свае 50 гадоў. З нагоды гэтай "круглай" даты наш карэспандэнт сустрэўся са старшынёй Саюза, вядомым драматургам Аляксеем ДУДАРАВЫМ.***



**— Па-першае, Аляксей Ануфрыевіч, я хачу шчыра павіншаваць увесь калектыў творчага Саюза з юбілеем... Па-другое, хацелася б, каб Вы распавялі пра тое, як жыве сёння Саюз, сябрамі якога з'яўляюцца многія таленавітыя дзеячы тэатральнага мастацтва — гонар і слава нашай нацыянальнай культуры.**

— Не хацелася б падчас юбілею гаварыць пра нашыя клопаты, пра праблемы, пра недахопы, тым больш што яны існуюць, мабыць, не толькі ў творчых людзей і арганізацый, але і ў кожнага з нас паасобку. Зазначу напачатку, што Беларускі Саюз тэатральных дзеячаў, які раней называўся Беларускім тэатральным аб'яднаннем, існуе з ліпеня 1946 года. Ля яго вытокаў стаяла наша славутая актрыса Ларыса Пампееўна Александроўская. Шмат часу мінула з тае пары...

**— Ці моцная матэрыяльная база ў Саюза тэатральных дзеячаў?**

— Наш "набытак" складаецца з вытворча-мастацкага камбіната і тэатральнага пансіяната. Здавалася б, багатая арганізацыя... Яно так на самой справе і ёсць, але ў цяперашніх умовах маёмасць, якую ты маеш, кладзецца на цябе такім цяжарам, што, напэўна, лягчэй жылося б, калі б яе не было!

**— Атрымліваецца нейкі парадокс...**

— Менавіта парадокс, які можа існаваць толькі ў нашых постсавецкіх дзяржавах. Таму што трэба ўтрымоўваць, рамантаваць усю гаспадарку, не кажучы ўжо пра фантастычныя падаткі, якія трэба плаціць. Ці ведаеш ты, што нават у часы Вялікай Айчыннай вайны прадпрыемствы творчых саюзаў былі вызвалены ад падаткаў на прыбытак?

**— Добра ведаю. Тое ж самае магу сказаць і пра Саюз мастакоў...**

— Тым больш што падаткі, якія паступаюць у бюджэт, не такія і вялікія. Для бюджэту, нават самага жабрацкага, усё гэта — не кропля ў моры і не пясчынка на ўзбярэжжы. Гэта ўвогуле — нічога... Але нягледзячы на гэта, паколькі рынавчныя адносіны афіцыйна абвешчаны, з 1 красавіка мінулага года мы пазбаўлены ўсялякіх прывілей. Карацей, мы апынуліся ў такім жа становішчы, што і астатнія арганізацыі і ўстановы.

**— На першы погляд здаецца, што гэта справядліва: чаму творчыя саюзы павінны быць у нейкіх асаблівых умовах?**

— Гэта толькі на першы погляд. Справядлівым гэта можа падацца толькі таму, хто далёкі ад аксіёмы: калі знікне нацыянальная культура, наша духоўная спадчына, дык знікне і дзяржава. Толькі творчыя саюзы аб'ядноўваюць творчую эліту! Раней сродкі, вызваленыя ад падаткаў, ішлі на патрэбы мастацтва, на культуру, на падтрымку сапраўды жабрацкага існавання творцаў, у тым ліку і нашых ветэранаў сцэны. Сёння мы знаходзімся ў жудасных умовах, асабліва гэта тычыцца акцёраў. Гэта проста гаротная нішчымніца! Толькі іхняя апантанасць, фанатызм, адданасць сваёй прафесіі трымае артыстаў у тэатрах. Напаўгалодныя, кепска апранутыя, яны працягваюць не толькі іграць, але і ўсміхацца нам са сцэны!

**— Напэўна, Саюз патрэбен зараз больш ветэранам, чым тым, хто сёння актыўна працуе на сцэне...**

— Так. Але кожнае жыццё, тым больш творчае, мае сваё заканчэнне. І добра, калі творчае жыццё сканчваецца адначасова з чалавечым. Але часцей за ўсё здараецца інакш: творчае жыццё скончылася, але чалавек працягвае жыць. І гэты чалавек хоча менавіта жыць, а не дажываць, і таму патрабуе да сябе ўвагі. Асабліва артысты, які прызвычаіліся да ўвагі. Уяві сабе: усё жыццё табе спадарожнічалі апладысменты, кветкі, усмешкі, а тут раптам, калі ты пайшоў па пенсію, на цябе чамусьці хутка забыліся. Такі вось лёс у акцёраў і спартсменаў: пакуль яны патрэбныя, іх літаральна носяць на руках, захапляюцца, просяць аўтографы, кахаюць... Але як толькі чалавек сышоў са сцэны — усё скончана... Вельмі несправядліва.

**— І як жа Саюз можа ім дапамагчы?**

— Мы не імкнемся замяніць тэатральны калектыў, але робім усё, што залежыць ад нас, усё магчымае, каб чалавек не адчуваў сябе самотным, каб ён ведаў, што ёсць установа, якая заўсёды з ім, дзе пра яго заўсёды памятаюць і імкнуцца па магчымасці дапамагчы — і ў радасці, і ў бядзе. Раней гэта было лягчэй, а цяпер — проста нестае грошай. Наш камбінат працуе, безумоўна, тое-сёе пералічвае нам, але і яму сёння вельмі складана. Дзякаваць Богу, што ён сёння не спыніў сваю дзейнасць. Ведаеш, нават дробязі — паштоўкі да дня нараджэння, ці да Раства альбо Новага года — і гэта дорага... Але людзі вельмі ўдзячныя за ўвагу...

**— Гэтаму спрыяе, на маю думку, і нефармальная структура самога Саюза, і такое ж стаўленне да справы ягонага кіраўніцтва.**

— Мяркую, што так. Мы імкнемся ставіцца да падзей, што адбываюцца вакол нас, да розных мерапрыемстваў, так бы мовіць, з адкрытай душой, без бюракратызму. І тым не менш... Да прыкладу, пенсіі. Яшчэ пры маім папярэдніку Саюз тэатральных дзеячаў даплочваў сваім членам 40 рублёў да пенсіі (а пенсіі тады былі 110 — 120 рублёў). І гэта станавілася значнай падтрымкай. Мы працягвалі гэтую традыцыю, колькі маглі, але часы змяніліся: нашыя пенсіянеры атрымліваюць усяго 550 — 600 тысяч на месяц. Іншы раз не ведаеш, каго ратаваць у першую чаргу...

**— Што тут скажаш...**

— Я адчуваю ўжо нейкую стомленасць. Я стаміўся бегаць і выпрошваць у кагосьці грошы, выкарыстоўваючы ўсе дазволеныя і недазволеныя сродкі, у тым ліку свой імідж і аўтарытэт, прыкрывацца сваёй вядомасцю... Бо, паўтаруся, не нам адным цяжка. Але існуюць людзі, якія і жадалі б нам дапамагчы, аднак — баяцца. Альбо кажуць: я дапамагу, але ты аб гэтым, калі ласка, нікому не кажы... Мы ўсе адукаваныя і добра разумеем, што зараз адбываецца ў дзяржаве. Але ўсё ж такі, калі пачынаецца пажар, дык з хаты ў першую чаргу выносяць не дываны ды патэльні, а дзяцей і абразы. А потым — усё астатняе...

**— Некаторыя творчыя саюзы, каб выжыць, здаюць частку сваіх памяшканняў у арэнду...**

— Мы ў арэнду нічога не здаем. Але справа ў іншым. У нас ёсць дамок — Дом мастацтваў, які патрабуе капітальнага рамонту. У мяне проста сэрца крывёю абліваецца, бо там усё развальваецца: трубы старыя, усё гніе...

**— Я памятаю гэты дамок, бо яшчэ напачатку 70-х наведваў кафэ, што там месцілася. Паміж сабой мы называлі яго "Мутным вокам". Там было вельмі цікава...**

— Так, мне таксама даводзілася тады там бываць. Дасюль памятаю тую ўтульную атмасферу творчай тусоўкі, дзе збіраліся і акцёры-ветэраны, і творчая моладзь,і мастакі, і літаратары, і кампазітары. Карацей, уся творчая інтэлігенцыя. Безумоўна, можна было б здаць першы паверх пад рэстаран. Якая розніца, хто будзе ім валодаць? Няхай прыходзіць чалавек, рамантуе будынак і хоць на дваццаць пяць гадоў застаецца тут...

**— Дык у чым жа справа?**

— Мы не ўпэўненыя... Здавалася б: дамок наш, у нас на балансе. Але... Нестабільна ў дзяржаве. У любы момант указам або пастановай у нас могуць адабраць нашу маёмасць — гэта ж помнік архітэктуры. Хоць мы і валодаем ім на законных падставах з 1969 года. Быццам бы ўсё нармальна. І жадаючых узяць у арэнду кафэ хапае. Аднак людзі таксама баяцца: а раптам іх выселяць, грошы ж вялікія ўкладзены... Што тут скажаш? Няма трывалых законаў. Не, законы існуюць, але выконваюцца яны па-рознаму: слабыя вымушаны ім падпарадкоўвацца, а моцныя і не збіраюцца выконваць законы альбо выкарыстоўваюць іх дзеля сваёй выгоды.

**— Дык што ж будзе з Домам мастацтваў?**

— Там усё трэба мяняць: і сантэхніку, і электрычнае абсталяванне, і ацяпленне, карацей кажучы — усё. Але дзякуючы віцэ-прэм'еру Уладзіміру Васілевічу Русакевічу, які ўважліва паставіўся да нашых праблем, мы атрымалі 2 мільярды бюджэтных сродкаў на рамонт. Гэтага недастаткова, я ведаю, аднак і за гэтыя грошы штосьці можна зрабіць...

**— А якія ў вас узаемаадносіны з Міністэрствам культуры?**

— Супрацоўніцтва нашага Саюза з Міністэрствам даволі плённае. У тым, што нам не пад сілу, дапамагае Міністэрства, але здараецца і наадварот... Толькі што скончылася "Маладзечанская сакавіца-97". На тры дні сабраліся разам майстры сцэны: паказалі камерныя спектаклі. Сёлета "Сакавіца" прайшла вельмі ўдала — разнастайна, у розных жанрах, таленавіта... І ўсё гэта — з дапамогай Міністэрства...

**— Калі будзе прыняты ў другім чытанні Закон аб творчых саюзах, ці лягчэй стане, на тваю думку, творчай асобе, хаця б у плане сацыяльнай абароны?**

— Безумоўна, такі закон нам неабходны. Але мне не вельмі верыцца, што ў новага парламента будзе на гэта час. Бо зараз вельмі шмат іншых праблем, магчыма, больш значных...

**— Мне здаецца, самае страшнае тое, што ў нас няма ўпэўненасці ў заўтрашнім дні...**

— Так. Сказалі б дакладна: хлопцы, выжывайце самі альбо зачыняйцеся! Дык не — абяцанкі-цацанкі... Мы пішам лісты, просім, патрабуем. Адным словам, ходзім па замкнёным коле ўжо пяць гадоў. Але, адчуваю, хутка мы пачнем з гэтага кола выпадаць... Павінен адзначыць: мы ўдзячныя Міністэрству культуры і ўраду за тое, што да 50-годдзя нашага Саюза мы атрымалі невялікую суму грошай. Праблем нашых гэтыя грошы не вырашаюць, але ўсё роўна — прыемна...

**— І падсумоўваючы вынікі...**

— Калі чалавеку ўжо зусім цяжка, наш Саюз не кіне яго ў бядзе.

**— Невясёлае інтэрв'ю ў нас атрымалася, спадар Аляксей.**

— Што ж зробіш? Праблем шмат, але трэба спадзявацца на лепшае...

**— Я таксама веру ў гэта. Дай Бог, каб гэтае лепшае было яшчэ пры нашым жыцці, а не пасля...**

**Гутарку вёў Барыс КРЭПАК**

# "Р-Р-РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ" СІТУАЦЫЯ

## *Рэканструкцыя Вялікага тэатра*

***Размовы аб рэканструкцыі тэатра пачаліся прыблізна 10 гадоў таму, калі міжведамасныя камісіі адзначылі ў пратаколах: "стан будынка нездавальняючы, прапануецца правесці рэканструкцыю". Гаворка ішла менавіта аб рэканструкцыі, бо Вялікі, як сведчыць шыльда ля ўвахода — "Гісторыка-культурная каштоўнасць", пашкоджанне якой караецца па законе. Таму меркавалася здзейсніць не адбудову — як было пасля вайны, не капітальны рамонт, як у 64 — 67 гадах, і не перабудову, пасля якой у тыя ж 60-я гады нават змяніўся трохі знешні выгляд. А вядома, што рэканструкцыя, рэстаўрацыя абыходзіцца часам даражэй, чым нават новае будаўніцтва.***

***Зараз пад адным дахам у Вялікім існуюць аж 4 юрыдычныя асобы: Нацыянальныя акадэмічныя тэатры оперы і балета, мастацка-тэатральны камбінат і вытворчае аб'яднанне "Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь". Апошні — гэта і ёсць тая ўстанова, што ажыццяўляе кіраванне рэканструкцыяй.***



*Першапачатковы выгляд Вялікага тэатра.*

***Анатоль КІРЫЕНКА, дырэктар ВА "Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь":***

— Застаючыся вытворчай структурай, мы ніколі на павінны забываць, што мы — тэатр. Таму і ўсе пытанні рэканструкцыі будынка мы разглядаем праз прызму творчасці нашай оперы і балетнага тэатра. Зараз, калі абодва тэатры, па сутнасці, знаходзяцца на творчым уздыме, рэканструкцыя і звязаны з гэтым часовы пераезд на плошчы Палаца Рэспублікі, які яшчэ будуецца, для іх не надта пажаданыя. Абодва тэатры толькі-толькі пачалі адчуваць увагу з боку ўлады, выгоды новага становішча — нацыянальных тэатраў. Гэта значыць, у большасці сваёй вырашаюцца кадравыя праблемы: працаваць тут творчым работнікам становіцца не толькі прэстыжна, але і выгадна. Тэатры трымаюць вялікі цікавы рэпертуар, значыць, і вядучыя выканаўцы — спевакі, танцоўшчыкі — больш задаволены сваёй працай. Але гэты рэпертуар можа існаваць толькі на гэтай сцэне. Тут вялікія магчымасці па асвятленні, па штакетнай гаспадарцы, па манціроўках, па канфігурацыі і люстэрку сцэны. Пад гэтыя, можна сказаць — ідэальныя, умовы і ставілася большасць спектакляў, зразумела, што кожны пастаноўшчык імкнуўся выкарыстаць усе названыя магчымасці. Усяго гэтага напэўна не будзе ў Палацы Рэспублікі. Я нават не ведаю, ці будзе там фура — прыстасаванне для хуткай замены дэкарацый, па сутнасці, другая сцэна ззаду асноўнай, — якая выкарыстоўваецца амаль у кожным спектаклі. Палацу гэта не патрэбна, бо ён спраектаваны галоўным чынам для масавых грамадскіх з'яваў. У выніку тэатры вымушаны будуць скараціць рэпертуар, тым самым мы будзем губляць гледачоў і выканаўцаў. Век артыста кароткі, пятнаццаць — дваццаць гадоў, хто пагодзіцца губляць з іх некалькі, пры тым, што нашых лепшых выканаўцаў напэўна ж не пакідаюць без увагі буйныя тэатры Расіі і іншага замежжа? І прапанаваць ім там могуць больш, прынамсі, у матэрыяльным плане.

Можна разважаць, ці мае будынак дасканалы выгляд. Кажуць, сам Лангбард, калі даведаўся, што тэатр з большага перажыў вайну і можа быць адноўлены ў першапачатковым выглядзе, не надта ўзрадаваўся. Але зараз гэта — гістарычная каштоўнасць. Таму праект рэканструкцыі прадугледжвае перш за ўсё аднаўленне першапачатковага выгляду — трох цыліндрычных аб'ёмаў з плоскім дахам (зараз дах зроблены шатровым). Самае слабое месца будынка — гэта пакрыцці і перагародкі. Яны былі зроблены з дрэннай сталі, якая паступова разбураецца. Апошнія гады нават існуе сур'ёзная небяспека раптоўнага разбурэння, таму штогод нашы спецыялісты ажыццяўляюць пільны нагляд за станам перакрыццяў. Шмат ёсць і драўляных перагародак, якія, вядома, разбураюцца яшчэ хутчэй.

Камунікацыі — пажарныя, цеплавыя, электрычныя, вадаправодныя — зараз у нягодным стане. Колькі б мы ні стараліся падтрымліваць іх, штогод гэта цяжэй. Таму ўсе яны будуць замененыя — уявіце маштаб гэтай працы!

Увогуле падчас рэканструкцыі з цяперашняга будынка застануцца толькі сцены і глядзельная зала разам з фае, бо фае адносна нядаўна было кардынальна аздоблена. Гэта пачалося яшчэ перад прыездам у Мінск Брэжнева на ўручэнне гораду Залатой Зоркі, менавіта тады было вырашана ўпрыгожыць фае мармурам і пазалотай. Выгляд глядзельнай залы не зменіцца таксама. Але з'явіцца яшчэ адна — малая зала на 300 месцаў, прызначаная галоўным чынам для ка-



*Глядзельная зала, першапачатковы выгляд.*

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ "КРАЮ"

Днямі ў Доме літаратара адбылася прэзентацыя літаратурнага альманаха "Край", які выпусціла ў свет Полацка-Глыбоцкая філія беларускіх пісьменнікаў. Вечарыну вёў кіраўнік літаратурнай філіі Навум Гальпяровіч, які і прадставіў аўтараў альманаха. Сярод іх багата імёнаў, добра знаёмых нашаму чытачу: Валянціна Аксак, Алесь Жыгуноў, Ірына Жарнасек, Галіна Варатынская, Ірына Дарафяйчук, і шмат новых імёнаў. Сімвалічна таксама тое, што падчас вечарыны сакратар Саюза пісьменнікаў Уладзімір Паўлаў уручыў пісьменніцкія білеты наноўпрынятым у саюз — сябрам філіі Галіне Варатынскай і Фаму Ляшонку.

Вечарына была адметная яшчэ і тым, што дала магчымасць прысутным пазнаёміцца з творчасцю кампазітара з Глыбокага Браніслава Грамакоўскага, які выканаў шэраг сваіх песень на вершы беларускіх паэтаў. Гэта першая сустрэча самабытнага кампазітара са сталічным гледачом. Прыемна адзначыць, што гэта знаёмства не расчаравала патрабавальнага сталічнага гледача. Браніслаў Грамакоўскі ў сваім выступленні зазначыў, што ён даўні і шчыры прыхільнік беларускай паэзіі і на сённяшні дзень ім напісана больш за 60 песень, якія яшчэ чакаюць сваіх выканаўцаў.

**Наш кар.**

## МАЭСТРА З АМЕРЫКІ

На днях у Вялікай зале Беларускай філармоніі адбыўся канцэрт Дзяржаўнага Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам амерыканскага дырыжора Чарльза Э. Ансбакера. Пасольства ЗША арганізавала цікавае выступленне знакамітага музыканта, доктара музычнага мастацтва штата Агая, дырыжора з дваццацігадовым стажам, музычнага, мастацкага кіраўніка Сімфанічнага аркестра Каларада-Спрынгс. У 1989 годзе доктару Чарльзу Э. Ансбакеру было нададзена высокае званне заслужанага Дырыжора — Лаўрэата.

Напярэдадні канцэрта адбылася незвычайная творчая сустрэча Чарльза Э. Ансбакера з прафесарска-выкладчыцкім саставам кафедры аркестравага дырыжыравання ў Беларускай акадэміі музыкі, дзе было задана яму шмат разнастайных пытанняў. Доктар Ансбакер досыць падрабязна расказаў аб музычнай падрыхтоўцы студэнтаў, дырыжораў, аб музычным жыцці і канцэртнай дзейнасці ў ЗША і Аўстрыі. Такога роду творчая сустрэча адбылася і на кафедры духавой музыкі Беларускага універсітэта культуры.

Канцэрт у філармоніі пачынаўся музычным шэдэўрам М.Глінкі, цудоўнай уверцюрай да оперы "Руслан і Людміла". Акадэмічны аркестр з натхненнем, з якойсьці асаблівай сілай, лёгка, віртуозна, з адточанай дынамікай, з падкрэсленай інтанацыйнай чысцінёй медпай групы, выключна прыгожа выканаў гэты выдатны твор. Пасля бліскучага аркестравага "сола" прагучаў фартэпіянны канцэрт №1 С.Пракоф'ева. Яго выканаў піяніст з Латвіі Арніс Зандманіс. Паэтычна прагучала Славянская сімфонія №8 А.Дворжака. На "біс" аркестр выканаў Славянскі танец А.Дворжака і знакаміты амерыканскі нацыянальны марш ЗША "Зорны трохкаляровы сцяг" ваеннага дырыжора, "Караля маршаў" Джорджа Філінна Суза.

Доктар Чарльз Э.Ансбакер валодае багатым вопытам выканання музыкі амерыканскіх кампазітараў з замежнымі аркестрамі. Ён дырыжыруе ў Еўропе, Азіі і ў многіх штатах ЗША, надае асаблівую ўвагу краінам Цэнтральнай Еўропы. Дамагаецца таго, каб аркестравая музыка стала важнай часткай жыцця яго горада. Займае шэраг высокіх пасад — узначальвае Нацыянальны фонд мастацтва, Гільдыю дырыжораў і Амерыканскую Лігу сімфанічных аркестраў. Нядаўна адміністрацыя прэзідэнта Клінтана звярнулася да доктара Ансбакера з просьбай арганізаваць музычную серыю з чатырох "Сямейных канцэртаў" у Белым Доме з трансляцыяй іх на ўсю краіну. У Мінску доктар Ансбакер дырыжыраваў упершыню. Ён вельмі высока ацаніў прафесійную падрыхтоўку, выканальніцкую музычную культуру сімфанічнага аркестра філармоніі. Музычная і культурная садружнасць дзеячаў мастацтва Беларусі і ЗША працягваецца і ўмацоўваецца.

**Барыс ПЯНЧУК,**
**народны артыст Беларусі, дырыжор, прафесар Акадэміі музыкі.**

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, СЯРГЕЙ ІВАНАВІЧ...



Зноў у Музеі сучаснай беларускай скульптуры імя Андрэя Бембеля свята. Свята, наладжанае Беларускім Саюзам мастакоў і шматфункцыянальным выставачным комплексам "На ростанях" Міністэрства культуры Беларусі. Тут адкрылася выстава твораў народнага мастака БССР, лаўрэата Ленінскай прэміі Сяргея Селіханава.

Сяргей Іванавіч пайшоў з жыцця ва ўзросце 59 гадоў. І вось пасля доўгага перапынку, у год свайго 80-годдзя, ён, аўтар Хатыні, нарэшце, прыйшоў да нас у пластычных вобразах высокага Мастацтва, увасобленага ў шырока вядомых помніках і манументах, у скульптурных кампазіцыях і псіхалагічных партрэтах, у творах камернага жывапісу, што дасюль былі невядомыя. Прыйшоў — у фатаграфіях з хатніх альбомаў. Прыйшоў — у рэдкіх архіўных кінакадрах 50-х гадоў, дзе "жывы" Селіханаў, малады і прыгожы, апантана лепіць свайго легендарнага Канстанціна Заслонава.

Шмат людзей сабралася ў выставачнай зале — скульптары, архітэктары, мастацтвазнаўцы, музейныя работнікі, журналісты, супрацоўнікі Міністэрства культуры і амбасады Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Беларусі, сябры і родныя мастака.

Паводле музейнай традыцыі, ля фотапартрэта Майстра — свечкі. На гэты раз у гонар свайго дзеда іх запаліў ягоны ўнук Канстанцін Селіханаў, малады, але ўжо вядомы скульптар. Пра жыццё і творчасць Сяргея Іванавіча, пра ягоны вялікі ўнёсак у беларускую культуру казалі старшыня Саюза мастакоў Генадзь Буралкін, галоўны спецыяліст аддзела музеяў і выстаў Міністэрства культуры, заслужаны дзеяч мастацтваў Уладзімір Уродніч, мастацтвазнаўца, заслужаны дзеяч мастацтваў Барыс Крэпак, заслужаныя архітэктары, лаўрэаты Ленінскай прэміі Леанід Левін і Юрый Градаў, дырэктар музея Клара Бембель, старшы навуковы супрацоўнік выставачнага комплексу "На ростанях" Людміла Дабравольская, дачка мастака Наталля Сяргееўна.

У сваёй прамове Надзвычайны і Паўнамоцны пасол КНР у Рэспубліцы Беларусь пан Джао-Сі-Ці асабліва падкрэсліў высокую мастацкую значнасць партрэтных твораў Сяргея Селіханава з "Кітайскага цыкла", створаных скульптарам падчас творчай камандзіроўкі ў 1956 годзе ў Кітай. І ў памяць пра выставу пасол падарыў музею цудоўную дэкаратыўную скульптуру, выкананую паводле тэхналогіі старажытнакітайскага мастацтва VIII стагоддзя.

Выстава працягне сваю работу да 20 красавіка.

**Наш кар.**

*На здымку: Сяргей Селіханаў за работай над кампазіцыяй "Прызыў".*

**Фота М.АНАНЬІНА**

## ВЯРТАННЕ НА ЗЯМЛЮ

У 37 гадоў гэтая жанчына амаль не памерла. Амаль — таму што, перажыўшы стан клінічнай смерці, зноў вярнулася на Зямлю, каб дапамагчы Чалавеку ўсвядоміць сваю ролю ў гэтым свеце, навучыць, як знайсці мір, шчасце, душэўнае і фізічнае здароўе.

Жыццё ў Тамары Уладзіміраўны Багданавай да гэтага пераломнага моманту ішло, як і ў іншых. Сямейныя клопаты, праца ў тэатры. Так і ішоў дзень за днём.

Цяжка хворую Тамару Багданаву паклалі ў шпіталь. Намаганні ўрачоў палепшыць стан не прынеслі поспехаў. Багданавай давялося перажыць клінічную смерць.

Пасля вяртання, як лічыць сама спадарыня Тамара, дзякуючы "волі Боскай" у сям'ю, да сваіх дзяцей, яна раптам адчула ў сабе дар — вышываць абразы, карціны.

Звычайны іканапіс — найскладанейшы від творчасці. Тое, што майстры робяць з дапамогай пэндзля і фарбаў, Тамара Уладзіміраўна выконвае іголкай і рознакаляровымі ніткамі. У яе атрымліваюцца цудоўныя творы мастацтва. Аблічы святых, створаныя яе рукамі, апрача эстэтычнай асалоды даюць чалавеку яшчэ і велізарны энергетычны зарад, што ачышчае душу чалавека, робіць яе больш светлай, прыгожай.

Каля трыццаці твораў Багданавай былі прадстаўлены на выставе ў Палацы культуры чыгуначнікаў. Перадаваць адчуванні словамі — няўдзячная справа. А тыя, каго зацікавяць творы мастачкі, могуць іх паглядзець. Перад Вялікаднем у Мінску зноў адбудзецца выстава яе цудоўных твораў.

**Андрэй АРШАНСКІ**

*На здымках: "Панна Марыя з сынам Ісусам". Тамара Багданава.*

**Фота Валерыя АЛЯШКЕВІЧА, БелТА.**





## НЕЗВЫЧАЙНЫ "МАЛЬБЕРТ"



Кажуць: лёс іграе чалавекам. Не думаў хлопец з Ферганскай даліны Музафар Базараў, што воляй лёсу трапіць на Беларусь, стане ў Мінску вядомым майстрам-мадэльерам жаночых фрызураў. Што будзе абараняць гонар Рэспублікі Беларусь на прэстыжным міжнародным конкурсе і, пакінуўшы па-за сабой многіх знакамітых майстроў, увойдзе ў шэраг пераможцаў.

Знаёмыя Музафара, ягоная жонка Святлана Шатэрнік (таксама вядомы майстар-мадэльер жаночых фрызураў) дасюль здзіўляюцца таму, як хутка і нечакана для ўсіх Базараў здзейсніў тое, да чаго другія яго калегі доўга і грунтоўна рыхтуюцца. У Музафара за плячыма навучанне ў лепшай у краінах СНД і Балтыі Львоўскай школе цырульнікаў, удзел у разнастайных конкурсах, Гран-пры Мінска. Аднак не кожны (хоць далёка не пачатковец) рызыкне выпрабоўваць лёс.

Рашэнне накіравацца ў Маскву на міжнародны конкурс прыйшло да Музафара Базарава нечакана. Не было ні афіцыйнага запрашэння, ні руплівай падрыхтоўкі — усяго два тыдні трэніровак пад кіраўніцтвам знакамітага віцебскага майстра Алены Баклушынай.

На маскоўскім конкурсе, як заведзена, сярод спецыялістаў прызавыя месцы былі негалосна размеркаваныя паміж мяркуемымі пераможцамі — у асноўным маскоўскімі і расійскімі мадэльерамі. Ніхто не думаў, што невядомы майстар з Мінска здолее за 10 хвілін, замест дадзеных 15, адолець жорсткія і амаль не прыстасаваныя для ўкладкі валасы сваёй мадэлі. І зробіць гэта не проста добра, а выдатна.

Перад Майстрам прынята здымаць капялюш. Журы не магло не ацаніць майстэрства Базарава. Так мінскі мадэльер жаночых фрызураў узышоў на цырульніцкі Алімп.

Музафар у адрозненне ад сяброў і знаёмых да свайго поспеху ставіцца з належным усходняму чалавеку філасофскім спакоем і практычнасцю. Ён лічыць: тое, што адбылося, павінна было адбыцца. У канчатковым выпадку ўсё гэта — вынік штодзённай працы, вывучэння апошніх дасягненняў у галіне цырульнай справы, абагульненне вопыту калег, пошук новых ліній і ідэй. Тое, што ўласціва любой творчай асобе.

Ягоны "мальберт" — валасы. Працуючы з імі, ён "малюе" свае карціны, не забываючыся на капрызную моду. Але кожны раз у дамінуючыя накірункі ён прыўносіць нешта асаблівае, сваё. Вобразы, якія ён стварае, — ці то ў стылі авангард, ці класічным, альбо жанчыны-вамп — непаўторныя. Спалучэнне ліній і форм, колеру... Цудоўныя фрызуры, якія робіць Музафар.

Пасля поспеху на "Інтэршарме" яму прапанавалі на даволі выгодных умовах застацца ў Маскве. Але Базараў аддаў перавагу іншай сталіцы, дзе знаходзіцца яго другі дом. Ён працягвае працаваць у звычайным мінскім салоне, ствараць свае карціны-фрызуры.

Можа ўзнікнуць рэзоннае пытанне. Калі ў нас ёсць такія майстры, чаму тады не многія з нас могуць пахваліцца моднымі фрызурамі, дагледжанымі валасамі? Няўжо "падстрыжанасць пад адзіны грэбень", адсутнасць індывідуальнасці, якую якраз і заклікана знаходзіць і падкрэсліваць рука майстра, — "прывілея" нашага сярэднестатыстычнага прадстаўніка мас?

На думку Музафара, дасягнуць еўрапейскага ў гэтай галіне ўзроўню пакуль не дазваляюць тонкія кашалькі суграмадзян. Не па кішэні большасці аплочваць немалыя цырульныя паслугі. Многім ледзьве хапае на ежу і камунальныя паслугі. Да таго ж у нас мала яшчэ цырульных салонаў, якія абсталяваны па апошнім слове, маюць добрых прафесіяналаў.

Чалавеку творчаму, які гарыць жаданнем зрабіць штосьці карыснае для грамадства, немагчыма разгарнуцца. Талент, прадпрымальнасць індывідуума застаюцца незапатрабаваныя. Зусім не назіраецца ў гэтым зацікаўленасці ні ў "новых беларусаў", ні ў дзяржавы. Але ж без стварэння станоўчых умоваў для дзейнасці людзей творчых і ініцыятыўных прагрэс немагчымы нідзе і ні ў чым.

Эканамічны крызіс, іншыя нелады — катэгорыі часовыя. Імкненне ж да Прыгажосці, Гармоніі, Дасканаласці — вечныя.

**Вера НАДЗЕВІЧ**
**Фота Жаны МАЁРАВАЙ**

# ЭКЗЕРСІСЫ ФРАНКАФОНІІ

Свет франкафоніі сёння — гэта 49 дзяржаў, у якіх у той ці іншай ступені існуе франкамоўнае асяроддзе. Сярод іх — краіны, дзе французская мова з'яўляецца дзяржаўнай: Бельгія, Люксембург, Канада, Швейцарыя — гэта зразумела. Большасць — былыя французскія калоніі, ад Марока да Мадагаскара, ад Лаоса да Новай Каледоніі і Гаіці, гэта таксама відавочна. Але ў доўгім спісе можна знайсці і ўвогуле нечаканыя краіны, напрыклад, Балгарыю, Румынію і нават Малдову. Намаганнямі французскай амбасады, не заўважыць якія немагчыма, усё бліжэй да рознакаляровага свету франкафоніі становіцца Беларусь.




Намаганні гэтыя штогод павялічваюцца, і што адметна — маюць не эпізадычны характар. Французскія "Артыстычныя сезоны" ўвосень і ўвесну вабяць паклоннікаў французскай музыкі, французскага балета і нават французскага драматычнага тэатра. Значна часцей — прынамсі раз на два месяцы — адбываюцца рэтраспекцыі французскага кінематографа. Сёлета да Міжнароднага дня франкафоніі (20 сакавіка) прымеркаваны шэраг мерапрыемстваў, якія пройдуць з 10 сакавіка па 3 красавіка і завуцца "Тыдні франкафоніі". Тэматычна большасць акцый будзе прысвечана Лівану — таксама франкамоўнай краіне. Апрача літаратуры падчас Тыдняў мінчукі сутыкнуцца з балетам і з кіно Францыі.

Менавіта ад арганізацыі спецыяльных, пашыраных паказаў французскага кіно пачынаў сваю дзейнасць у Беларусі саветнік па культуры французскай амбасады спадар Франсуа Ларан — Францыя як-ніяк радзіма братоў Люм'ер, гэта значыць радзіма кінематографа. Рэтраспекцыі дазволілі беларусам нарэшце на ўласныя вочы ўбачыць творы вялікіх французскіх рэжысёраў ці атрымаць асалоду ад новых сустрэч з улюбёнымі акцёрамі. Звыкла рэтраспекцыі так і будуюцца — па творах рэжысёраў ці па фільмах з вядомымі артыстамі. Дарэчы, у чэрвені запланаваны паказ фільмаў з удзелам "улюбёнца савецкіх жанчын" Алена Дэлона. А ў рамках цяперашніх Тыдняў франкафоніі праходзяць паказы фільмаў з цыкла "Маладое кіно 1994".

Францыя — гэта наогул "культурная скарбніца" Еўропы, да якой так імкнуцца далучыцца беларусы. Магчыма таму на плошчах абласной бібліятэкі імя Пушкіна з'явілася Франка-беларуская зала інфармацыі. Зала працуе штодня і дазваляе любому жадаючаму паглыбіць свае веды аб Францыі і французскай мове, літаратуры, мастацтве. Падчас Тыдняў у Зале адбываюцца чытанні і семінары. Напрыклад, адзін з тэматаў гучыць так: "Французская мова прэсы", другі — "Франкамоўная ліванская літаратура". Напэўна, найбольш уражальнай з'явай у Зале будуць "Брэйн-рынгі па-французску", 26 і 27 сакавіка. У іх падрыхтоўцы і правядзенні прымаюць удзел выкладчыкі франка-беларускага факультэта палітычных навук пры Еўрапейскім Гуманітарным Універсітэце, натуральна, французы. А змагацца на "рынгах" будуць галоўным чынам студэнты Лінгвістычнага універсітэта і школьнікі з мінскіх школ, дзе вывучаецца французская мова, у тым ліку са школ-гімназій №№ 20, 74, 79.

Лішне казаць — большасць акцый Тыдняў будуць цікавейшымі для франкамоўных гледачоў і слухачоў. На іх увагу разлічаны таксама спецыяльны сакавіцкі нумар франкамоўнай газеты "Планета людзей" ("Planete des Hommes"), якая выдаецца штомесячна ад кастрычніка мінулага года ў Мінску, а дакладней — у Заслаўі.

Спадар Ларан згадзіўся пракаментаваць асноўныя падзеі Тыдняў.

**— Чаму тэмай Тыдняў стаў Ліван?**

— У рамках культурнага супрацоўніцтва мы звязаны з некалькімі турыстычнымі фірмамі Беларусі. Адна з іх, якая арганізуе туры ў Ліван, якраз і прапанавала прысвяціць сёлета Тыдні франкафоніі Лівану. Дарэчы, гэта фірма прапанавала бясплатна пуцёўку ў Ліван у якасці аднаго з прызоў для ўдзельнікаў Тыдняў. Беларусы мала ведаюць пра гэтую краіну, а, напрыклад, у свеце франкамоўных дзяржаў Ліван адзначаны, апрача іншага, і тым, што ліванец Амін Малюф (Amin Maalouf) нядаўна стаў лаўрэатам ганкураўскай прэміі за раман "Скала Таніёса" ("Le Roche de Tanios").

**— Якія падзеі Тыдняў Вы б адзначылі асобна?**

— Тыдні франкафоніі мы сумясцілі з вясновым артыстычным сезонам. Таму ў гэты час пройдуць выступленні дзвюх балетных труп сучаснага танца з Францыі. Два тыдні ў адным з мінскіх рэстаранаў пройдуць Дні французскай кухні, з розыгрышам некалькіх пуцёвак у Парыж, Ніцу, Каны. Завершацца тыдні канцэртам з твораў французскіх кампазітараў, якія будуць выконваць беларускія музыканты. Канцэрт пройдзе ў Камернай зале філармоніі 3 красавіка.

**— Сярод франкамоўных краін я са здзіўленнем знайшоў Балгарыю, Румынію, Малдову...**

— Калі ў час вядомых падзей у Румыніі французскія карэспандэнты задавалі свае пытанні звычайным грамадзянам, яны атрымлівалі адказы па-французску. Высветлілася, што французская мова вельмі папулярная там. Тое ж самае і ў Балгарыі. Нейкі час гэтыя дзяржавы былі назіральнікамі ў міжнародным Вышэйшым Савеце Франкафоніі, зараз — паўнапраўныя члены. Малдова была прынята ў мінулым годзе.

**— Які ўдзел прымае пасольства ў выданні беларускай франкамоўнай газеты "Планета людзей"?**

— Газета цалкам задумана і выдаецца энтузіястамі французскай мовы ў Беларусі на чале з Андрэем Кляноўскім. Нейкі час напачатку мы прыглядаліся да яе, зараз мы купляем плошчу адной старонкі. І дапамагаем у творчым плане — матэрыяламі, кансультацыямі, перакладамі.

*Можна спадзявацца, Тыдні франкафоніі дабавяць беларусам ведаў аб культуры французаў. Так гэта ці не, дапаможа высветліць віктарына, прысвечаная Францыі, якую газета "Культура" мае намер прапанаваць сваім чытачам у красавіку. Пераможцаў чакаюць каштоўныя падарункі ад французскай амбасады.*

# АКНО Ў ПАРЫЖ

***"Франка-беларуская зала інфармацыі аб сучаснай Францыі", якая месціцца ў абласной Пушкінскай бібліятэцы Мінска, становіцца ўсё больш папулярным месцам не толькі для тых, хто вывучае французскую мову. Тры гадзіны, што я правёў у зале побач з гаспадыняй, францужанкай Карын Жалівэ, пацвердзілі, што гэта — "акно" ці можа "дзверы" ў свет Францыі, яе культуры, мастацтва і нават тэхнічных дасягненняў. Зусім гладкая гутарка не атрымалася — перашкаджалі наведнікі. Затое яны ж дабаўлялі тэмаў для размовы.***

**— Карын, якімі фондамі валодае зала?**

— У асноўным гэта літаратура з амбасады Францыі ў Беларусі. Зараз мы зрабілі і будзем рабіць надалей замову на новую літаратуру згодна з запатрабаваннямі нашых чытачоў. Тут таксама сорак два найменні перыёдыкі. Дарэчы, новыя іх выпускі мы атрымліваем праз тыдзень пасля з'яўлення ў Францыі. Тэматычна ў нас літаратура па мастацтве, сацыялогіі, даведніцкая, педагагічная, лінгвістычная, турыстычная. На аудыё-касетах — курсы французскай мовы, на кампакт-дысках — эстрада. На відэакасетах педагагічныя матэрыялы, фільмаў пакуль што няма, але абавязкова будуць.

**— Ці доўга вы ўладкоўваліся тут?**

— Зала існуе з кастрычніка мінулага года, вялікую дапамогу аказвае бібліятэка. Мы зрабілі невялікі рамонт. Сталы, аудыё- і відэаапаратуру перадалі амбасада і Міністэрства культуры і франкафоніі Францыі. Хутка тут з'явяцца камп'ютэры.

**— Чаму французскі ўрад ідзе на такія выдаткі ?**

— Адказ просты — наша і падобныя да яе залы, звесткі, якія праз іх даходзяць да людзей, — усё гэта спрыяе ўмацаванню прэстыжу Францыі, яе культуры.

**— Зараз некаторыя амбасады ў Беларусі згортваюць сваю дзейнасць у сувязі з беларуска-расійскай інтэграцыяй. Калі перастане існаваць амбасада Францыі, мусіць, закрыецца і вашая зала?**

— Ні ў якім разе. Наш пасол кажа, што палітыка не павінна ўплываць на культуру. Не для таго мы прыклалі столькі намаганняў, засноўваючы гэтую справу, каб ад яе адмовіцца.

**— Той, хто пільна сочыць за актыўнасцю французскай амбасады ў культурным жыцці Беларусі, здзіўляюцца, што з усіх галін французскай культуры не прапагандуецца толькі выяўленчае мастацтва. Чаму?**

— Мы рыхтуем першую выставу летам гэтага года — прысвечаную Шагалу. І высветлілася, што гэта вельмі складана і дарага. Страхоўкі, мытныя фармальнасці, ці вось такі аспект: калекцыю павінна суправаджаць асоба, якая адказвае за стан карцін — у нас яна называецца "conservateur". І гэта каштуе вельмі дорага. Зараз мы замовілі для залы шмат альбомаў рэпрадукцый, галоўным чынам, сучаснага жывапісу.

**— Вы кажаце "мы" — але працуеце ў зале адна, ці не так?**

— Так, што датычыцца абслугоўвання чытачоў. Але штодня тут павінны бываць хтосьці з нашых выкладчыкаў — іх пяць. Яны даюць тэматычныя кансультацыі — вядома, бясплатныя. Два дні — па мове, па аднаму — па эканоміцы, па гісторыі і паліталогіі.

**— Што Вас асабіста прывяло да гэтай працы?**

— Гэта — лепшы спосаб пашырэння зносінаў. Я — філолаг, і калі б я працавала ў Францыі, дык выкладала б рускую мову. Для мяне цікавей наладжваць адносіны з вашай краінай. Два гады я працавала выкладчыкам у Расіі, у Іркуцку. З 1992 года выкладала французскую мову тут, у вышэйшых навучальных установах Мінска. Я добра ведаю, якія цяжкасці з матэрыяламі на французскай мове. Ёсць многа выкладчыкаў і студэнтаў, якія хацелі б ведаць больш, але да гэтага часу не мелі магчымасці. Маю на ўвазе не толькі веды моўныя. Калі я працавала выкладчыцай, я старалася не толькі навучыць мове, але даць інструмент пазнання.

**— Ці добра беларусы ведаюць французскую мову?**

— Вельмі добра — прынамсі тыя, што тут бываюць. Але ёсць памылкі, якія, як ні дзіўна, паўтараюцца ад Брэста да Уладзівастока. І не паддаюцца выпраўленню — спрэчкі даходзяць да таго, што я часам пытаюся: "Хто ўрэшце тут француз?" А мне ў адказ: "Вы так доўга тут жывяце, што ..."

**— Калі Вы пачалі жыць і працаваць тут, ці адбілася гэта на Вашых звычках? Ці не палохаюць напэўна ж пагоршаныя ў параўнанні з Францыяй бытавыя ўмовы?**

— На быт я не звяртаю пільнай увагі — пакуль што. А звычак амаль што не змяніла — хіба палiць прыдзецца кінуць, бо на гэта не хапае часу.

**— Што Вы чытаеце з мясцовых выданняў?**

— Газету "Имя" і часопіс "Всемирная литература".

**— Як Вам падабаецца беларуская мова?**

— Зараз я ўжо добра ўспрымаю беларускую мову. Многае залежыць ад таго, хто размаўляе. Часам я чую нешта накшталт дрэннай рускай мовы — тыя ж словы. А сапраўдная беларуская мова вельмі прыгожая.

**— Якія якасці беларусаў Вы б вызначылі як нацыянальныя?**

— Цікавая рэч — вашы людзі быццам не любяць чытаць! Калі ў адказ на запытанне даеш паперку з усёй неабходнай інфармацыяй, усё роўна жадаюць, каб ім штосьці растлумачылі вусна.

А калі сур'ёзна — цярплівасць. Я сама навучылася тут цярплівасці, бо спачатку часам не хапала нерваў. Але зараз я — і іншыя мае калегі — турбуемся, ці не перарасце ў нас гэтая якасць у тое, у што яна ператварылася ў беларусаў, — у пасіўнасць?

**— У правілах паводзінаў, якія атрымлівае кожны новы чытач залы, ёсць пункт аб мерах пакарання за дрэнныя адносіны да кніжак і парушэнне тэрмінаў карыстання. Ці даводзілася гэтыя меры ўжываць?**

— Не, дагэтуль не даводзілася. Чытачы паводзяць сябе добра і паважліва. Мяркую, людзі разумеюць, што і навошта мы тут робім.

# МІНСК — ЛІЛЬ І НАЗАД

## (Інтэрв'ю ў прыёмным пакоі амбасады)

***...Завяршыўшы размову з адказнай асобай французскай амбасады, я паціху пакіраваўся да выхаду. Сакратарка асобы затрымала мяне: "Чакайце, я Вас праводжу". Колькі я ні аднекваўся, не столькі ад сціпласці, але больш ад недахопу часу, прыпыніцца ўсё ж прыйшлося — "не прынята", каб наведнік пакідаў амбасаду ў адзіноце. Але не такія ўжо кароткія хвіліны чакання аказаліся нечакана цікавымі. Сакратарка займалася афармленнем дакументаў для маўклівай сарамлівай дзяўчыны, мяркуючы па прозвішчы, нашай суайчынніцы, якая скончыла курс у Лільскім універсітэце і зараз жадала атрымаць засведчаны пераклад французскага пасведчання аб гэтым. Пераадольваючы натуральную для нармальнага сучаснага чалавека насцярожанасць у адносінах да рэпарцёраў і саступаючы маёй упартасці, Наталля — так звалі дзяўчыну — усё ж такі разгаварылася.***

**— Па якой спецыяльнасці Вы вучыліся ў Францыі?**

— Сотавая тэлефонная сувязь — гэта вельмі перспектыўная спецыяльнасць. Там гэта ўжо ўчарашні дзень, у нас — для большасці дзень заўтрашні.

**— Па якім "блаце" Вы трапілі за мяжу?**

— Ніякага "блату" не было, я вучылася ў нашым радыётэхнічным інстытуце на тэлефаніі і выпадкова пачула, што ёсць магчымасць прадоўжыць навучанне у Францыі, зразумела, для тых, хто валодае мовай. Падала заяву, прайшла адбор: трэба было не толькі прадэманстраваць добрыя моўныя навыкі, але і напісаць сачыненне па спецыяльнасці — гэта значыць, па тэлефаніі.

**— Напэўна, добрым валоданнем мовай Вы абавязаны заканчэннем якой-небудзь спецыялізаванай школы?**

— Не, абавязана толькі сабе. Вядома, я вучыла французскую і ў школе, але ў звычайнай, і ў інстытуце — нароўні з усімі. А ўвесь вольны час аддавала вывучэнню мовы на безлічы курсаў.

**— Скажыце шчыра, колькі першых месяцаў у Францыі Вы не разумелі нічога, нягледзячы нават на такую сур'ёзную падрыхтоўку?**

— Шчыра кажучы, месяцы два. Гэта значыць, не разумела мовы на слых і не магла вольна гутарыць. Падручнікі, тое-сёе з газет я чытала адразу.

**— А як праводзілі вольны час?**

— Вучылася.

**— Ці завялі новых сяброў?**

— Хутчэй, прыяцеляў. Адначасова са мной вучыліся студэнты з Расіі, Літвы — было з кім вадзіцца.

**— Як Вы пазбеглі спакусы застацца на французскай зямлі назусім?**

— Лёгка — такой спакусы не было. Лішне казаць, я спрабавала знайсці працу, але без віду на жыхарства гэта немагчыма. Нават маючы часовы від на жыхарства, на адзін год, на час навучання, ніхто з "нашых" працаўладкавацца не здолеў.

**— Чым займаецеся зараз? Ці ўладкаваліся па сваёй перспектыўнай спецыяльнасці?**

— Зараз спрабую сябе ў іншай — у якасці выкладчыка французскай мовы. І, каб гэта рабіць легальна, якраз і звярнулася ў амбасаду па пасведчанне.

**— Сотавая тэлефанія пакуль пачакае?**

*На апошняе пытанне я адказу не атрымаў — не ад яго правакацыйнай сур'ёзнасці, а проста час быў ісці.*

*А я ўсё ж шчыра зайздрошчу тым маладым беларусам,хто,дзякуючы замежным сябрам нашай дзяржавы, удыхнулі ведаў — а і проста паветра Еўропы. Нешта з гэтага прарасце?*

**Матэрыялы паласы падрыхтаваў Ігар КЛОКАЎ**

# БАБЕТА ІДЗЕ НА БАЛЕТ, альбо Б.Б. у МІНСКУ

***Сучасны танец не надта ўжо часта можна ўбачыць на нашых сцэнах. Тым значнейшая з'ява — добры мадэрн-балет, пастаўлены славутай французскай танцоўшчыцай Карын Сапарта.***



У Францыі існуе дванаццаць Нацыянальных цэнтраў сучаснага танца. Летась Мінск наведаў са сваёй трупай Даніэль Лар'ё. Сёлета французская амбасада "прывезла" тэатр Сапарта з Кана. З 1988 года Сапарта зрабіла 15 спектакляў — штогод па аднаму-два. Зараз яна ўжо не танцуе, у трупе — шасцёра салістаў, не ўлічваючы часова запрошаных на які-небудзь асобны спектакль. Для сучаснага балета не існуе размежавання на салістаў і кардэбалет, падчас спектакля выканаўцы змяняюць адзін аднаго ў сольных фрагментах. (Дарэчы, менавіта па такім узоры пабудаваны спектакль "Кругаверць", які быў пастаўлены на сцэне нашага Нацыянальнага тэатра ў мінулым годзе харэографамі Юліяй Чурко і Уладзімірам Івановым. Напэўна, гэта і ёсць узаемапранікненне культур?) Сярод пастановак Сапарта — балеты пра жудасці канцлагераў, пра быт сучаснага горада, пра экзатычны свет нацыянальных ускраін. Апошняя работа Сапарта — балет на музыку Шапэна, прысвечаны рамантызму. Сродкамі сучаснага танца харэографу ўдаецца разважаць на ўсе тэмы сучаснасці. Балет, прывезены ў Мінск, мае назву "Баль стагоддзя" і прысвечаны стогадоваму юбілею кінематографа. Прэм'ера адбылася на адкрыцці Канскага фестывалю ў 1995 годзе, потым спектакль бачылі ў Іспаніі, Італіі, Венгрыі, Славакіі. Цяперашні тур трупы пройдзе, апрача Мінска, па гарадах Балтыі і Расіі.

Відовішча, прапанаванае мінскім гледачам, уражвае, па-першае, смеласцю пастаноўшчыка. Матэрыялам для балета сталі шэсць любімых фільмаў Сапарта, з якіх яна, як зазначана ў праграмцы, "звівае чароўныя локаны, што праследуюць і адурманьваюць гледача". Кожны з фільмаў урыўкамі праецыруецца на задніку сцэны, у той час як танцоўшчыкі вядуць сваю "гаворку" на тэмы, падказаныя фільмамі. Але балет — гэта не толькі калаж і пераказ. Напрыклад, ці не цэнтральнай з'явай дзеяння Сапарта абрала вобраз славутай французскай акторкі Брыжыт Бардо, "Бі-Бі", як яе называлі і завуць да гэтага часу. След, які пакінула эксцэнтрычная кінадзіва ў свеце, у культурным асяроддзі і ў жыцці сучаснікаў, сапраўды значны, пачынаючы ад лялек "Брыжыт" і "конскага хваста" ў жаночых фрызурах — да новага стылю паводзін. Вядома, нашым гледачам трыумф Бардо ў свеце менш вядомы, як і большасць з абраных для канвы спектакля фільмаў, дарма, што імёны стваральнікаў гучаць, як назвы главаў з гісторыі кіно. Сярод іх няма ні Эйзенштэйна, ні Чапліна — затое ёсць Жан-Люк Гадар, Лукіна Вісконці, Федэрыка Феліні, Кінг Відар, Альфрэд Хічкок і Жан Както. Але спектакль, балет сам па сабе — самадастатковы твор мастацтва, гэта значыць, падстава для роздумаў і эмацыйных перажыванняў. Магчыма, каб гэта адчуць, гледачу трэба прыняць тую мову, што прапаноўваюць пастаноўшчык і выканаўцы, не адмаўляць нязвыклыя сродкі выяўлення, пачынаючы ад спецыфічнай музыкі, трансфармаваных дэкарацый — да "марыянетачнай" пластыкі. Трохі цяжкаватая, "жорсткая" музыка збольшага адпавядае менавіта гэтай танцавальнай стылістыцы, якая складаецца з дзіўных, нязвыклых для балета ліній, паставаў, якія нагадваюць "стоп-кадр", ці арыгінальных ракурсаў, увогуле спецыфічных толькі для кіно, напрыклад, піруэт пад вуглом да плоскасці сцэны. Рэфрэны — паўторы тых самых харэаграфічных фраз — таксама зброя з арсенала кіно, з яго бясконцымі "дублямі".

Лішне казаць, спектакль вельмі арганічны і зроблены прафесійна. Тым большае было здзіўленне ад асабістай сустрэчы з выканаўцамі — зусім юнымі хлопцамі і дзяўчатамі. Адкрытасць і раскаванасць артыстаў праявілася і ў адказах на пытанні.

**— Дзе вы больш любіце выступаць — у Францыі ці за мяжой?**

— Усюды цікава. За мяжой прыемна бываць, шчасце выступаць у вашым тэатры — Вялікім не толькі па назве. У Францыі вельмі крытычна настроеная публіка — вядома ж, вялікія традыцыі, ёсць з чаго выбіраць. За мяжой прыём больш цёплы.

**— У трупе два хлапцы і чатыры дзяўчыны. Ці ёсць сямейныя пары?**

— Не, нам і так добра жывецца. Мы ўсе розныя і добра адзін аднаго дапаўняем.

**— Ва ўсіх прафесійная падрыхтоўка?**

— Па-рознаму. У Францыі існуе магчымасць не толькі займацца ў спецыялізаваных школах, якія выпускаюць прафесіяналаў, але браць асобныя ўрокі — класічнага танца, сучаснага ці фламенка. Сярод нас — тыя, хто скончылі класічную школу, кансерваторыю, сучасныя студыі. Многае залежыць ад таго, якую вы знойдзеце працу: калі запросяць у класічную трупу, мы здолеем танцаваць. Але па прыхільнасці мы — танцоўшчыкі сучаснай харэаграфіі.

**— Паспелі пабачыць Мінск?**

— Няшмат — з вакна аўтобуса. Уражанне: едзем праз вёску — і раптам ужо горад, Мінск. Ці дзіўныя будынкі ў самым цэнтры — недабудаваныя альбо пачалі разбурацца? Адчулі, як далёка ад Францыі забраліся.

*На кактэйлі, арганізаваным пасля спектакля для французскіх артыстаў, адзін з тостаў, які прагучаў з вуснаў Валянціна Елізар'ева, быў такі: "За нашу цяжкую працу, за тое, што ёсць артысты і гледачы". Сапраўды, гэта варта ўслаўлення. Асабліва, калі тых і другіх, фармальна раздзеленых рампай і іншымі межамі, яднае сапраўднае мастацтва.*

І.К.

# АДСУТНАСЦЬ ІНФАРМАЦЫІ СТВАРАЕ МЕЖЫ

Два дні, у час якіх на сцэне тэатра "Вольная сцэна" праходзіла знаёмства з нямецкай драматургіяй, былі надзвычай напружаныя і па-свойму незвычайныя: не так часта даводзіцца нам сустракацца з творчасцю калег-пісьменнікаў з-за мяжы. Што іх хвалюе? І што ёсць сённяшняе нямецкае грамадства? Багатае, занятае ўласным дабрабытам, ганарыстае ў адносінах да іншых, як уяўляюць яго адны, альбо хрысціянска-дабрачыннае, якое дапамагае нашым хворым дзецям і шмат ахвяруе на гуманітарную дапамогу, якім бачаць яго іншыя? Аднак жа любое грамадства складаецца з асобных людзей, а ўсе яны кахаюць, хварэюць, свядома ці падсвядома імкнуцца разгадаць таямніцу свайго з'яўлення на Зямлі, хочуць быць шчаслівымі альбо адвяргаюць тое, што іншым здаецца шчасцем, — і мы ўбачылі хутчэй не сацыяльны, а анталагічны зрэз адной з частак чалавецтва, якая жыве зусім недалёка ад нас, вырашаючы праблемы, многія з якіх нам блізкія і зразумелыя.

"Мне здавалася, што гэта будзе звычайнае мерапрыемства, — сказала на абмеркаванні заслужаная артыстка Беларусі Таццяна Мархель. — А вось цяпер хаджу і паўтараю словы Луізы з п'есы Танкрэда Дорста "Пан Пауль". Мне блізкія памкненні гэтай жанчыны — хацелася б таксама, адрынуўшы ўсё будзённае, сядзець у пустым доме, глядзець оперы, атрымаўшы ў падарунак ад некага білет..."

Пераказваць усе шэсць п'ес, якія былі прадстаўлены на сцэне тэатра, немагчыма, варта хаця б іх пералічыць: "Татуіроўка" Дэа Лоэр, "Час, калі мы нічога не ведалі адзін пра аднаго" Петэра Хандке, "Альпійскае ззянне" Петэра Турыні, "Бот і ягоны насок" Герберта Ахтэрнбуша, "Погляд незнаёмца" Вольфганга Марыі Баўэра і названая ўжо "Пан Пауль" Танкрэда Дорста. Кожная з іх цікавая па-свойму, у кожнай чалавек імкнецца зразумець сябе і, у залежнасці ад таго, удаецца гэта яму ці не, спрабуе наладзіць сваё жыццё ў грамадстве альбо па-за ім. Пан Пауль, напрыклад, які мог бы зрабіць бліскучую кар'еру, выбірае простае, амаль расліннае жыццё ў запушчаным памяшканні старой мыльнай фабрыкі. Выведзены з сябе спробамі выселіць яго адтуль, ён выказваецца ў спрэчцы з маладым прадпрымальнікам Хельмам: "Павелічэнне, пашырэнне! Да чаго гэта прывядзе? Усё больш і больш, усё шырэй і шырэй. Я скажу, да чаго гэта прывядзе: да катастрофы. Дзед Ваш лавіў у свой час валацужных сабак і варыў з іх мыла... Усе сабакі ў акрузе зніклі, нібы выпарыліся!.. І гэтак будзе далей, фабрыка будзе ўсё большаць і большаць, а затым у кацёл запіхнуць і мяне! Мяне і пару такіх, як я... Так званыя прыстойныя кідаюць у кацёл непрыстойных, гэта прадуктыўна!"

Параметры, па якіх грамадства часта вымярае вартасць таго ці іншага чалавека, вельмі вузкія і жорсткія — гэтая тэма так ці інакш праходзіць амаль праз кожны твор. І яе, нечакана можа нават і для аўтара, паставіла ў цэнтры п'есы "Татуіроўка" Таццяна Мархель, дзе галоўнай гераіняй павінна быць не яе Юліяна, а Аніта, адна з дачок добрапрыстойнага пекара Вухта (яе ролю ў спектаклі выконвала Любоў Арцімовіч). Паталагічная сітуацыя ў сям'і, дзе бацька гвалтуе спачатку адну, а пасля другую дачку, нараджаецца, магчыма, дзякуючы і маўчанню маці, яе неўмяшальніцтву. Таму малодшая з дачок, Лулу, ненавідзіць уласную маці — за тое, што ад яе пахне псінай (Юліяна стрыжэ сабачак у модным сабачым атэлье), за яе паходку, за гэтае маўчанне. Але ў выкананні Таццяны Мархель мы бачым істоту, якая да смяротнага жаху запалоханая мужам — пры ім яна ходзіць дробнай, мітуслівай паходкай, смірэнна маўчыць у адказ на ўсе яго разглагольстваванні. І яна выклікае спачуванне, яна прымушае задумацца на праблемай насілля і яго ахвяр. Выдатны эпізод, калі, застаўшыся адна, Юліяна задуменна, як бы нарэшце асэнсоўваючы сябе і сваё "Я", гаворыць: "Не, я не сабачка!" І хай яе сыход з сям'і падобны да ўцёкаў, усё ж гэта адбываецца — яна хоча быць асобай, а не сабачкай, якую гаспадар можа пагладзіць альбо прыбіць па сваім жаданні.

Дарэчы, размова пра ролі з нямецкай драматургіі, сыграныя Таццянай Мархель, не выпадковая: менавіта яна стала, пасля самой драматургіі, адкрыццём для многіх, і Вадзім Дапкюнас, назваўшы яе выкананне "вышэйшай школай майстэрства", выказаў думку многіх крытыкаў і рэжысёраў. Новым для тых, хто сабраўся ў гэтыя дні ў тэатры "Вольная сцэна", было і чытанне п'ес самімі рэжысёрамі: так, Барыс Луцэнка прачытаў п'есу Петэра Хандке "Час, калі мы нічога не ведалі адзін пра аднаго", а Вітаўтас Грыгалюнас — "Альпійскае ззянне" Петэра Турыні.

На пачатку чытання альбо пастановак, як прызнаваліся многія, узнікала пачуццё нейкага непрымання: занадта рызыкоўныя, на наша ўспрыманне, сцэны, характары, сітуацыі."Я напачатку думаў — як іграць гэты дурдом? — шчыра прызнаўся Валерый Мазынскі. — Але пасля падумаў: ды пачытайце нашы газеты, паслухайце перадачы — хіба не пра тое самае расказваюць яны, але мы сарамліва апускаем вочы і робім выгляд, быццам гэтага няма".

На думку Веры Багальянц, дырэктара мінскага філіяла Інстытута імя Гётэ, рэжысёр выдатна справіўся з задачай. "Мы хацелі пазнаёміць беларускага гледача з тым, што адбываецца ў нямецкай драматургіі. Аднак тое, што ў тэатры зрабілі, можна назваць сапраўднымі спектаклямі. І я адчуваю — нешта сапраўды адбылося ў два гэтыя вельмі насычаныя дні. Магчыма, гэта ў першую чаргу ўзаемаразуменне — тое ўзаемаразуменне, якое не заўсёды дасягальнае ў жыцці, але якое робіць дасягальным мастацтва".

Новы праект Інстытута імя Гётэ атрымаў шырокі станоўчы рэзананс. "Ён мне вельмі падабаецца, — сказаў на абмеркаванні дацэнт Універсітэта культуры, рэжысёр Рыгор Баравік. — Мы, увогуле, амаль нічога не ведаем аб вашым жыцці, аб грамадскіх праблемах. А ў гэтых праектах (я маю на ўвазе і іншыя праекты Інстытута імя Гётэ) вельмі важныя менавіта маральныя і духоўныя пошукі нямецкага мастацтва".

І сапраўды, хіба не імкнецца любое мастацтва, у сілу сваіх магчымасцей, спазнаць, што хаваецца па-за шалупіннем слоў, дабрацца да таямніцы чалавечага "Я"? І, мабыць, сярод п'ес, з якімі мы пазнаёміліся дзякуючы Гётэ-інстытуту, найбольш уражвае твор Петэра Хандке . Ён не мае вобразаў, словы таксама зніклі. Тэкст — гэта бліскуча напісаны шэраг рэжысёрскіх зазначанняў. Каб даць аб іх уяўленне, прывяду кавалак з п'есы: "Пасля ўсіх, спатыкаючыся, забрыдае яшчэ тып у блакітным форменным адзенні падмайстра, пры гэтым, коцячы кола ад фурманкі — ці гэта, магчыма, разетка, ашклёная нябеснай палівай Шартра, у якой толькі прыхаматліва пераламляецца святло? — пасярэдзіне разварочваецца з рэчу кругам і ўжо вяртаецца назад без яе, шукае сваё месца побач з іншымі, аднак, вядома ж, яго не знаходзіць, — не-знаходжанне-свайго-месца робіцца ўсё болей рэалістычным, пакуль, нарэшце, вулічны блазан, ён жа вартаўнік, ён жа гаспадар пляца, нядоўга думаючы, указвае яго дзе-небудзь (ніхто яшчэ да такой ступені не быў на сваім месцы), на што ягоны памагаты зрывае з сябе маску і ў прамежку пераўвасабляецца з усімі астатнімі ў не-знаю-больш-каго".

І, мабыць, лепш за ўсё выказаў уражанне ад гэтай неардынарнай для нашага мастацтва падзеі К.Мальковіч, старшы выкладчык Універсітэта культуры: "Межы стварае адсутнасць інфармацыі адзін пра аднаго. У нас зараз назіраецца інфармацыйны голад. Знікне ён — можа, не стане і мяжы".

**Вольга ІПАТАВА**

# БУЛГАКАЎ — ГОСЦЬ БРЭМЕНА

Міхаіл Булгакаў стаў госцем Брэмена. Перад гэтым быў Берлін, а потым будзе Лейпцыг. Ягоная (я кажу так, разумеючы, што маю на ўвазе аўтара "Майстра і Маргарыты", "Дзён Турбіных", "Мальера"...), дык вось, ягоная выстава "Рукапісы не гараць" была ўрачыста адкрыта ў зале брэменскага бургамістрата, — зала гэтая прадастаўляецца толькі "імператарам" у сваіх сферах дзейнасці, і адразу ж была адзначана актыўнасцю гараджан. Экспанаты выставы — рукапісы (якія так і не згарэлі!), фатаграфіі Кіева і Масквы, з "хатняга альбома", плакаты часоў рэвалюцыі — усё гэта з фондаў Расійскага літаратурнага музея, Інстытута рускай літаратуры (Пушкінскага Дома) і Музея горада Кіева.

Супрацоўнік Дзяржлітмузея (Масква) Міхаіл Шапашнікаў сказаў: "У Булгакава была рыса, якую вызначыла Ганна Ахматава ў прысвечаным яму вершы — "... и до конца донес великолепное презренье". Булгакаў застаўся верным гэтай пагардзе (як, дарэчы, і сама Ахматава) да скону свайго веку. Ён жыў у пастаянным чаканні арышту. Тым не менш, пісьменнік застаўся верным гэтай пазіцыі — "жорсткаму" стаўленню да жыцця, захоўваючы да самай смерці здзіўляючую моц характару.

Стаўленне ўладаў да п'ес "Мальер" і "Дні Турбіных" (адна п'еса знятая пасля шасці спектакляў, другая вынесла беспрэцэдэнтнае цкаванне прэсы) прымушала Булгакава жыць у стане пастаяннай падрыхтаванасці да смерці. "Дні Турбіных" не здымалі — Сталін іншы раз наведваў гэты спектакль... Аднойчы ў кватэры Булгакава прагучала тэлефанаванне, і правадыр (!) папытаўся, ці не хоча пісьменнік паехаць з Расіі, як Замяцін? "Не, не хачу", — адказаў Булгакаў. Яму адразу было прадастаўлена месца намесніка дырэктара МХАТа.

Наведнікі выставы даведаюцца і пра апошні "праект выжывання" Булгакава. Да 60-годдзя з дня нараджэння Сталіна пісьменнік піша п'есу "Батум". Сталіну яна не спадабалася, і яе не паставілі. (На шчасце для Булгакава...) Забарона "Батума" паскорыла крызіс хранічнай хваробы, і ў 1940 годзе, не ведаючы, што яму наканаваная сусветная слава, пісьменнік памірае.

... Нямеччына працягвае знаёміцца з жыццём вялікага рускага літаратурнага Чарадзея і Магістра, жыццём, поўным парадоксаў, як і належыць жыццю чалавека, які стварае містычнае, смешнае і трагічнае. За "фокусамі" — слёзы, за прыніжэннем — "великолепное презренье..."

Дзякуй берлінскаму выдавецтву "Volk und Welt", якое выдала шасцітомны збор твораў Міхаіла Булгакава па-нямецку і наладзіла гэтую выставу. Свет павінен ведаць сваіх герояў-пакутнікаў, сваіх Настаўнікаў.

# РАДАСНАЯ НЕСПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Марыяна — жаночы сімвал Францыі. У розныя часы французскімі Марыянамі былі Брыжыт Бардо, Мірэй Мацье... Нямеччына вырашыла таксама знайсці свой жаночы сімвал. Гэта адбылося на берлінскай выставе ў Марцін-Гропіус-Бау напрыканцы мінулага года. Выстава была прысвечана германа-французскім стасункам. Яе наведнікам было прапанавана выказаць сваё меркаванне. Бліц-апытанне дало адказ: першае і другое месцы падзялілі Клаўдзія Шыфер і Дагмар Бергхорф, на трэцім з невялікім адрывам апынулася вядомая фігурыстка Катарына Віт. Спрэчку вырашылі прадстаўнікі прэсы, якія адзінадушна ўзялі бок Клаўдыі.

З пункту погляду справядлівасці, безумоўна, тут не ўсё добра. Але ўся Нямеччына засталася задаволеная такім сваім нацыянальным сімвалам. Мяркую, што "нацыянальны сімвал" таксама задаволены.

**Навум ЦЫПІС, наш уласны карэспандэнт у Германіі.**

# К КУЛЬТУРА

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ

# ШЛЯХ НЕ ПА "ЗАМОВЕ"

***Юрый ГАРУЛЁЎ — рэжысёр-аператар "Беларусьфільма". З сярэдзіны сямідзесятых працуе ў аб'яднанні "Летапіс", на якім здымаюць дакументальныя і навукова-папулярныя фільмы.***

***Гарулёў — адзін з лепшых аператараў студыі. Працаваў разам з Аркадзем Рудэрманам над усімі яго фільмамі, знятымі ў "Летапісе". У тым ліку і над славутым "Тэатрам часоў перабудовы і галоснасці", стужкай, якая стала з'явай не толькі ў эстэтычным, але і ў грамадскім жыцці Беларусі.***

***На "Кінакалядах" (быў такі своеасаблівы кінематаграфічны фэст на Беларусі) Гарулёву прысудзілі унікальную ўзнагароду "За лепшы кадр" у фільме "Гуд бай, СССР". У гэтым невялікім паэтычна-настальгічным фільме галоўнай дзейнай дэталлю стала жаночая далонь. Неверагодна, што не ў тэатры жэстаў, а ў рэальным жыцці аператар "злавіў" гісторыю развітання і безнадзейнасці...***

***Увосень 1992 года Гарулёў разам з Рудэрманам паехалі здымаць у Таджыкістан кінастужку "Ад малітвы да малітвы". І на гэтай першай грамадзянскай вайне ў СССР Аркадзь загінуў, здымкі фільма завяршылі яго сябры. Разам з Гарулёвым над стужкай працавалі аператар Сямён Фрыдлянд і рэжысёр Юрый Хашчавацкі. Фільм "Ад малітвы да малітвы" дэманстраваўся на тэлевізійным экране.***

***Я прагледзела зараз гэты фільм, амаль праз 5 гадоў. Дзіўнае такое кіно. І не толькі таму, што стужку пачынаў адзін рэжысёр, а заканчваў другі, і гэта, безумоўна, адчуваецца... У фільме зафіксавана адыходзячая эпоха, імгненна перастаў існаваць СССР. Але ўжо надзея на "лепшае жыццё" змянілася разгубленасцю. Аўтары фільма паехалі ў Таджыкістан не толькі "па замове". Яны сапраўды спрабавалі разабрацца ў дзіўнай заблытанай сітуацыі, калі "брат пайшоў на брата". Але аднаго жадання аказалася недастаткова... І ўсе гэтыя адчуванні інтанацыйна прысутнічаюць у фільме. Таму і размова з Юрыем Гарулёвым пачалася менавіта з гэтага фільма.***

— Мы паехалі здымаць вядомага кінематаграфіста Даўлата Худаназарава, які спрабаваў прымірыць абодва бакі... Там было не два бакі, наогул... І калі мы ўпершыню пачулі інфармацыю ад Даўлата і яго жонкі (яна даволі моцны аналітык), то зразумелі, што мы нічога не разумеем... Я перакананы, што і сённяшняя інфармацыя па ТБ — гэта толькі частка праўды... Ну як нам можна зразумець Чачню, там столькі нюансаў, такія тонкасці! Мы імкнуліся зрабіць фільм пра тое, як страшэнна выглядае "звычайнасць" штодзённай вайны, калі чалавек шпурляе гранату за агароджу, не ведаючы, што там гуляюць дзеці, а з другога боку таксама ляціць куля няведама ў каго...

**— У вашым фільме былі кадры з першымі бежанцамі, якім ніхто не мог дапамагчы. І, здаецца, апошняя размова Аркадзя была з імі...**



— Аркадзь... Я ўпэўнены, пражыві ён яшчэ, ён бы зусім адышоў ад палітычнага кіно... Яго апошнія стужкі: і "Агульная малітва", і "Дарагая Галуша", і іншыя — сведчылі пра тое, што для яго асабіста палітыка адыходзіла на другі план, а каштоўнасцю рабіліся зусім іншыя рэчы. Чалавек, яго унікальнасць і шматбаковасць... Авантурная палітыка, у якой ён "купаўся" і зарабіў сабе імя, ужо не была яму так цікавая... Ён быў глыбокі і таленавіты рэжысёр. А што мне як аператару было цікава: ён вельмі ўважліва ставіўся да выяўленчага боку фільма, любіў, каб у стужцы разам з думкай была прыгожая "карцінка". Мне здаецца, што так у перспектыве і павінен развівацца дакументальны кінематограф...

**— Калі прагучала слова "перспектыва", давай павернем яго да беларускага кінематографа. Колькі чалавек зараз працуе ў "Летапісе"?**

— Зараз здымаюць 5 — 6 рэжысёраў і прыкладна 10 аператараў... Я памятаю той час, калі ўсё жыццё на студыі праходзіла ў калідорах — там усе тусаваліся, сталі лаўкі, бо не хапала месца ў кабінетах. Працавалі (гэта значыць, здымалі) 30 рэжысёраў і 20 аператараў. Шмат хронікі здымалі. Так, мой першы летапісны матэрыял я здымаў у Ваўкавыску, дзе пачыналі будаваць завод і мы здымалі нулявы цыкл. Зараз гэты завод вызначае сацыяльна-эканамічную палітыку ўсяго горада... Быў час, калі на студыі думалі пра тое, што трэба фіксаваць для гісторыі... Зараз, здаецца, ізноў пачалі здымаць хроніку. Справа, наогул, упіраецца не ў нашае жаданне, а ў адсутнасць грошай... Я ведаю, што ў якасці "працівагі" гавораць пра летапісную хроніку на тэлебачанні. Але тут ёсць адзін нюанс. Летапісны матэрыял, які здымае тэлебачанне, знікае — ну не праз 5, дык праз 10 гадоў па тэхнічных умовах. А кіно, як мы ведаем, захоўваецца дзесяткі і дзесяткі, і сто гадоў... Гэта і ёсць адказ на пытанне пра перспектывы... Так, мы мала здымаем, але я веру, што мы будзем працягваць работу. Таму што гэта патрэбна не толькі нам, людзям з кінематаграфічнай прафесіяй, але і самой дзяржаве...

**— Што зараз уяўляе сабою беларускі дакументальны кінематограф? Я маю на ўвазе не лічбы, а асобы, мастацкія тэндэнцыі...**

— Наш кінематограф заўсёды быў кінематографам з магутнымі творчымі асобамі. Віктар Дашук, яго і сёння памятаюць ва ўсім былым Саюзе, Аляксандр Карпаў-малодшы, ён, здаецца, ізноў звярнуўся "да пачатку" і зняў дакументальны фільм на "Белвідэацэнтры"... Сяргей Лук'янчыкаў... Спіс можна доўжыць.. Наогул, і былі, і засталіся не самыя горшыя. "Летапіс" цяпер у асноўным здымае стужкі гісторыка-культурнага напрамку... І ёсць вельмі цікавыя работы. Напрыклад, фільмы Міхася Жданоўскага... Памятаеце, як у "застойныя" часы ён здымаў бясконцыя фільмы-партрэты пра дзеячаў?.. А потым была яго стужка пра землятрус у Арменіі "Цавэд, танэм".

**— Памятаю. На кінафестывалі ў Варонежы армянскія кінематаграфісты самі здзівіліся, бо ніхто з былога СССР не паехаў здымаць...**

— Так. Для Міхася было гэта як покліч душы. Баюся гэтых розных высокіх слоў... Але мне здаецца, што менавіта пасля гэтых падзей ён выйшаў на зусім іншыя аспекты ва ўласнай творчасці. Ён стаў мастаком-філосафам і зараз можа стварыць глыбокі высокамастацкі фільм, выкарыстоўваючы толькі статычныя здымкі.

**— Давай зараз звернемся да тваёй творчасці. На пачатку 90-х ты заняўся рэжысурай. Сярод фільмаў, якія ты зняў у якасці рэжысёра, мне болей падабаюцца стужкі не пра палітыку, а пра людзей, якія жывуць па сваіх маральных законах, што даволі цяжка сёння... Героі фільма "Выпадак з практыкі" — урачы сельскай бальніцы для цяжкахворых; потым героі фільма "Дзеці кавалера Жан-Бацiста Піранэзі" — мастакі-рэстаўратары, якія навучыліся рабіць хэпенінгі з уласнага жыцця; удзельнікі фільма "Вечар у Паўночных Афінах" разам з галоўным героем Сяргеем Верамейчыкам, які складае оперу для дзетак у сельскай школе, для іх, духоўных нашчадкаў Агінскага...**

— Стужка "Дэпутаты" — гэта, здаецца, мой адзіны фільм пра палітыку... Быў такі намер — стварыць на экране калектыўны вобраз народных абраннікаў, і час быў такі цікавы, мноства розных падзей... Але зараз і для мяне большую цікавасць уяўляе кіно, якое ўзіраецца ў чалавека... І ў рэшце рэшт, для мяне не галоўнае ягоная прафесія... Так, я здымаў замоўленую стужку "Зямля — неба". Але для мяне яна была не проста "заказуха". Нашы героі-дыспетчары змагаліся за ідэю. Яны — высокія прафесіяналы нават у сусветным маштабе... Змагаліся за незалежнасць, за тое, каб быць незалежнымі ад кампаній або асобных арганізацый, а падпарадкоўвацца толькі ўраду... Гэта можна доўга расказваць, але я ўключыўся добраахвотна ў гэтую барацьбу... На жаль, нашы героі прайгралі...

**— Ці ёсць у цябе зараз праект, які можна здзейсніць на "Беларусьфільме" або на "Белвідэацэнтры"?**

— Мне шанцуе, напэўна. Я здымаю без прастою. Але свой самастойны праект я здымаю на ўласныя грошы, таму што работа над фільмам доўжылася некалькі гадоў. А калі ўлічваць першы намер, дык ужо гадоў з дзесятак прайшло... Гэта фільм пра першага беларускага кардынала Казіміра Свёнтака.

**— Ты каталік?**

— Я, прабач, і не каталік, і не праваслаўны і гэтак далей. Да веры, здаецца, так і не прыйшоў. А чаму менавіта гэты фільм, мне сёння цяжка адказаць... Я іншы раз задаю сабе пытанне: "Чаму так здарылася, што лёс мяне звёў з гэтым чалавекам, і я ішоў да яго рознымі незвычайнымі шляхамі... Гадоў дзесяць таму мы з Аркадзем Рудэрманам апынуліся ўпершыню ў Пінску на здымках кінастужкі "Хто выправіць памылку Дэметры? (Гэты фільм потым атрымаў мноства міжнародных узнагарод. — **Г.Ш.**) Зайшлі ў касцёл і патрапілі на экскурсію. Нас уразіла нават не столькі прыгажосць касцёла, колькі экскурсавод. Ён распавядаў не пра гісторыю каталіцтва, а пра мастацтва. "Адчувалася, што гэта высокаадукаваны чалавек і вельмі незалежны ў сваіх поглядах... Перабудова яшчэ пачыналася, а ён быў так разняволены ў сваіх ідэалагічных выказваннях... Нам пінчане расказалі, што, як ксёндз, ён адбыў тэрмін на Калыме. І тады ўпершыню з'явілася жаданне зняць фільм пра гэтага чалавека... А потым я здымаў сваю стужку "Абразы" і пазнаёміўся з Аркадзем Шпунтам, які рэстаўраваў францысканскі касцёл і добра ведаў Свёнтака... Разам з гісторыкам Святланай Адамовіч яны ўгаварылі Казіміра Янавіча на здымкі ў фільме... Гэта і ёсць наш творчы калектыў.

Наогул я ўпершыню пазнаёміўся з каталіцызмам, калі мы здымалі з Міхасём Жданоўскім фільм "Арганы Беларусі"... Ведаеце, ажна ў пяцьдзесят гадоў я ўпершыню зразумеў, што слова "езуіт" — гэта не той, хто благі, кепскі, "езуіт" паходзіць ад слова "Езус", Сын Боскі... А для шматлікіх маіх суайчыннікаў, як мне здаецца, гэта невядома, як невядомы і цэлы культурны пласт каталіцызму...

**— Пытанне, мабыць, будзе недарэчным: цяжка было працаваць над фільмам?**

— Цяжка было ў тым сэнсе, што гэты чалавек сам сабе не належыць. Яму 82 гады, а ў яго нататнік распісаны на два гады наперад...

**— Што ж, пажадаем і сабе такога...**

**Галіна ШУР**

*На здымку (злева направа): Юрый Гарулёў і Сямён Фрыдлянд.*

ДВАЦЦАЦЬ ПЯТЫ КАДР

## Стоп-кадр Яўгена КОКТЫША



*"А заўтра была...вясна".*

АД АРХІВАРЫУСА

# ЧОВЕН, ЯКІ ПЕРАПЛЫЎ СТАГОДДЗІ

## Праграма, распрацаваная беларускімі археолагамі, адкрывае нам нязведанае... Але...

***На Беларусі знойдзены старажытны човен, які служыў нашым продкам — радзімічам. Выцесленая з цэльнага бервяна архаічная лодка, трапіўшы ў сучаснасць, праявіла некалькі праблемаў, якія паўсталі перад нашай гістарычнай навукай. Зусім нядаўна высветлілася, што "прыплыла" яна з XII стагоддзя...***

***Расказваюць інспектар па ахове гістарычнай спадчыны Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Аляксандр БАНДАРЭНКА і старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі Мікалай КРЫВАЦЭВІЧ.***

**Аляксандр БАНДАРЭНКА:** У 1995 годзе пра човен мне павedamіў жыхар вёскі Ліцвінавічы Пётр Бандарэнка. Ён ляснік і падчас агляду тэрыторыі на беразе Сажа ўбачыў цікавую знаходку. Каб даставіць экспанат у Мінск, нам патрэбны былі фінансавыя сродкі. Мы звярталіся ў дзяржаўныя ўстановы, але, на жаль, знайсці падтрымку не ўдалося. Гэтай справай заняўся этналагічны цэнтр "Крыўе"; пры дапамозе фірм "Джэ-Ві-Сэт", "Фіко", "Дайнова", "Рэсвідэа" зафрахтавалі машыну і разам з археолагам Мікалаем Крывацэвічам выправіліся ў экспедыцыю.

Нам дапамагаў сам ляснік, яго брат, дзеці. Човен давялося акуратна пераправіць цераз Сож, а пасля — у Мінск.

**Мікалай КРЫВАЦЭВІЧ:** Човен, як здавалася з выгляду, не самы архаічны — не каменнага, не бронзавага, не жалезнага вякоў, хутчэй за ўсё — сярэднявечча. Але былі сумненні, раптам ён больш ранні? Чаму ўзніклі гэткія сумненні, — таму што побач каля вёскі Ліцвіновічы ў 70-я — 80-я гады праводзіліся раскопкі паселішчаў эпохі каменя і бронзы. Раскопкі праводзіла сп. Алена Калечыц. Былі знойдзены посуд, інвентар. Думалася, а раптам і гэтая лодка яшчэ больш старажытная.

**А.Б.:** Цяпер дакладна вызначаны час, калі быў зроблены човен — канец XII стагоддзя. І хоць гэта не каменны век, але гэта адзін з самых старажытных чаўноў, якія дагэтуль вядомыя на тэрыторыі Беларусі. Праўда, існуюць сведчанні, што, напрыклад, на Шчары, у зямлі ляжаць аналагічныя, але да іх яшчэ трэба дабрацца. А ў музеях — гэта самы старажытны экспанат. Хоць археолагам вядома, што чаўнамі людзі сталі карыстацца на нашых землях яшчэ з каменнага веку.

**М.К.:** Канешне, нам хацелася ведаць дакладны час, калі быў зроблены гэты човен. Падобныя знаходкі былі на Беларусі, але не рабіліся спробы датавання. А вызначыць дакладную дату можна карыстаючыся радыевугляродным метадам. Такія аналізы былі праведзены тут, у Мінску, у лабараторыі Інстытута геалагічных навук. Была атрымана дата — канец XII стагоддзя. Пасля гэтая дата была пераправерана ў Санкт-Пецярбургу. Там пацвердзілі прыблізна тое самае. Гэта човен сярэдневяковага часу.

**А.Б.:** Зараз экспанат знаходзіцца ў Музеі старажытнабеларускага мастацтва Акадэміі навук Беларусі. Але паўстае праблема кансервацыі, бо дрэва высыхае, з'яўляюцца пашкоджанні.

**М.К.:** Задача "захавання" стаіць вельмі востра. Ёсць некалькі спосабаў. Можна прасычыць дрэва пэўнымі кансервантамі, але гэта вельмі дарага, практычна немагчыма ў нашых эканамічных умовах. А можна рабіць інакш. Рэч у тым, што човен узяты з вільготнага асяроддзя, дзе ён добра захоўваўся ўсе стагоддзі, але цяпер трапіў у сухое музейнае паветра. Пачынаюць дзейнічаць бактэрыі, і дрэва хутка разбураецца, проста пераўтвараецца ў труху. Таму можна зрабіць спецыяльную вадзяную ванну альбо шкляны акварыум. Гэта дапаможа захаваць экспанат, праўда, таксама толькі на пэўны час.



Вось гэты човен!

**А.Б.:** Было б няблага, каб знайшоўся, як зараз кажуць, спонсар, які выдаткаваў бы сродкі на кансервацыю знаходкі. Каб яна магла служыць для навуковай працы.

**М.К.:** Яшчэ пра адно. У сувязі з тым, што для дадзенага экспаната ўжо зроблена радыевугляроднае датаванне, ад:рываюцца далейшыя магчымасці праверыць і іншыя унікальныя знаходкі. Гэты спосаб эфектыўны і досыць недарагі. Мы прапануем ажно цэлую праграму радыевугляроднага вызначэння даты археалагічных помнікаў Беларусі, асабліва самых старажытных. Напрыклад, за грошы, якія нам удалося адшукаць самымі рознымі шляхамі, праведзена ўжо радыевугляроднае датаванне унікальнага магільніка эпохі бронзы пад Рагачовым канца III — пачатку II тысячагоддзя да н.э. Аднак гэта толькі першыя крокі. З-за таго што падобная праца не праводзіцца планамерна, мы выпадаем з сістэмы еўрапейскай старажытнай храналогіі, бо літаральна па пальцах можам пералічыць тыя старажытныя аб'екты, якія дакладна прадатаваныя. Пакуль даты ў нас у большасці сваёй прыблізныя.

Калі б знайшліся сродкі, мы змаглі б у гэтым сэнсе дагнаць еўрапейскія краіны. Дый і патрэбна невялікая сума — хаця б некалькі соцень даляраў. Магчыма, знойдуцца людзі, якія сталі б фундатарамі гэтай праграмы. У нас ёсць прадуманы план, згодна з якім ужо можна распачаць працу: якія рэчы датаваць у першую чаргу, якія пасля, як увязаць гэта з еўрапейскімі храналагічнымі сістэмамі. Матэрыялаў і працы вельмі шмат — знайсці б сродкі.

Напрыклад, у нас ёсць тарфянікавыя паселішчы на Віцебшчыне — гэта паселішчы каменнага, бронзавага вякоў, якія перакрыты торфам. А торф вельмі добра кансервуе дрэва, косць, бурштын, арганічныя рэчывы. З'яўляецца унікальная магчымасць рэканструяваць жыццё людзей, якія жылі многа тысяч гадоў таму. Такі матэрыял вельмі зручны для датавання, прычым можна па пластах, дзе рэчы залягаюць, датаваць тыя ж торф, дрэва, косткі, вугаль. Можна распрацаваць дакладнейшую храналогію для цэлага рэгіёна Еўропы.

*Што ж, можа і ёсць на Беларусі людзі, якім не абыякавы стан нашай гістарычнай навукі, а значыцца — стан памяці нашага народа, людзі, якія ў гэткіх даволі цяжкіх эканамічных умовах маюць магчымасць і жаданне дапамагчы ў справе музейнай кансервацыі старажытнага човена і рэалізацыі праграмы радыевугляроднага датавання археалагічных помнікаў Беларусі.*

*Працоўны тэлефон Мікалая Крывацэвіча 68-43-22 (Мінск, вул. Скарыны, 1. Інстытут гісторыі)*

*Званіце, пішыце, прапануйце.*

**Занатаваў Серж МІНСКЕВІЧ**

# КАЛОДЗЕЖ, КАЛОДЗЕЖ, ДАЙ ВАДЫ НАПІЦЦА

У Беларусі ў даўніну ў лясной глыбі ці каля балота часта можна было сустрэць самотную студню. Хто яе паставіў тут, удалечыні ад чалавечага жытла? Каго поіць яна сваёй вадою? Міралюбнага падарожніка-селяніна? Ці злога разбойніка? Што яна чулабачыла за сваё доўгае жыццё? Яе стары шэры зруб густа пакрыты зялёным мохам, ланцуг, на якім замацавана драўлянае вядро, зусім заржавеў, але халаднаватая вада празрыстая і смачная. Аднак чаму на калаўроце калодзежа прывязаны белы вышыты ручнік, а на ручцы вісяць чырвоныя тонкія стужачкі? А справа ў тым, што гэткія самотныя студні раней лічыліся свяшчэннымі. Ручнік ды стужачкі, прывязаныя да калодзежа, — гэта прынашэнні людзей, якія прыходзілі пакланяцца святыні, некаторыя нават кідалі ў студню грошы. Усё гэта сляды паганскага культу вады, які быў характэрны для продкаў беларусаў, старажытных славян-язычнікаў.

З перажыткамі старадаўняга культу вады звязаны былі і абрады, якія выконваліся каля вясковых калодзежаў. Так, у час засухі збіраліся ўсёй сялібай каля студні, сыпалі ў ваду мак, гарох, семя льну, кідалі бітыя гаршэчкі, часам жа ў калодзежы тапілі спецыяльна зробленае саламянае чучала ці нават якую-небудзь дробную жывёліну. Усе гэтыя дзеянні паходзілі ад старажытнага паганскага ахвяравання бажаству вады. Пра ахвяраванні бажаствам вады каля калодзежа гаворыцца і ў шматлікіх летапісах...

У беларусаў перажыткі ахвяраванняў праяўляліся і ў народным абрадзе, які называўся Куготы, Гаготы або Агатуха. Ён таксама праводзіўся каля калодзежа: у студню кідалі спецыяльную абрадавую кашу, а потым крычалі ў калодзеж незразумелыя словы: "Кугу-гу!" (ад гэтага крыку, пэўна, і паходзіць назва самога абраду). Гэты крык таксама меў абрадавае значэнне і выконваў ролю своеасаблівага заклінання вады. Дарэчы, крычалі з абрадавай мэтай у калодзеж і ў дзявочае свята Андросы, што адзначалася ў Піліпаўку.

Аб крынічнай і калодзежнай вадзе беларусы вельмі рупіліся. Так, часам яна патрабавала спецыяльнай аховы ад чар вядзьмарак і ведзьмакоў, што маглі сурочыць ваду. Тады калодзеж абкладвалі крапівой, якая, як лічылі, абараняла ад злых сіл, увасабляючы сабою сонечны агонь.

На некаторыя святы беларусы праводзілі і абрадавае абсяванне калодзежа, што таксама было звязана з культам вады. Напрыклад, на дзень Андросы дзяўчаты абсявалі студню каноплямі. Таксама і ўвосень на Андрэя Першазваннага вечарам ля калодзежа сеялі каноплі і лён. Гэткае абрадавае засяванне мела сімвалічны характар: як засеянае ўзыдзе, так ажыццявіцца і загаданае. "Святы Андрэю, я каноплі сею, дай мне знаць, з кім буду рваць," — прыгаворвалі дзяўчаты, праводзячы абрад.

А якую вялікую ролю калодзеж як пэўны свяшчэнны аб'ект адыгрываў у рознай варажбе! Вось, напрыклад, на Каляды пасля вячэры дзеўкі хапалі вёдры і беглі хто шпарчэй да студні па ваду: якая з дзевак хутчэй прыбяжыць дадому — тая першай выйдзе замуж. Для варажбы ж рабілі своеасаблівыя макеты калодзежа. Так, на Новы год з палачак складвалі падабенства калодзежа (2 — 3 вяночкі), усярэдзіну ставілі кружку з вадою і, каб прысніўся жаніх, гаварылі: "Госпадзі, з кім мне век векаваць, дай мне Бог ува сне павідаць, няхай мне ваду падасць." Некаторыя пры такой варажбе клалі на зроблены маленькі зруб калодзежа замок, а ключ хавалі пад падушку. Казалі: "Ражон, сужон, прыйдзі вады піць."

Аднак тое, што калодзеж ва ўяўленнях беларускага народа меў сакральны, свяшчэнны характар, не перашкодзіла беларусам насяліць студню рознымі нячысцікамі. Па народных паданнях, у кожным калодзежы жыве свой вадзянік, гаспадар студні. Прычым трэба адрозніваць калодзежных вадзянікоў ад рачных, яны хоць і родныя істоты, але ўсё ж не адно і тое ж. Расказвалі, што калі калодзеж стаіць каля ракі, калодзежны і рачны вадзянікі часта перагаворваюцца паміж сабой, але бывае, што адзін аднаго ніколі ў вочы не бачаць, а ведаюць суседа толькі па голасу. Нярэдка таксама можна было чуць расказ пра тое, што хто-небудзь выцягнуў з вядром з калодзежа чорта, які пасяліўся ў студні. Часам гэты чорт быццам бы меў выгляд чорнага ката. Можа падацца дзіўным, што чорт асталяваўся ў такім свяшчэнным месцы, як калодзеж. Але не трэба забываць, што вада для славянскіх народаў (а менавіта ўвасабленнем воднай стыхіі, па ўяўленнях сялян-беларусаў, была студня), у адрозненне ад зямлі, з'ўлялася толькі напаўдружалюбнай сілай — як яе недахоп, так і занадта вялікая колькасць маглі пашкодзіць гаспадарцы.

Але ёсць тут яшчэ і іншае тлумачэнне. У беларускага народа былі неадназначныя адносіны да д'ябла. Звернем увагу на тое, што, па перакананнях беларусаў, чорт мог жыць не толькі ў такім сакральным месцы, як калодзеж, а нават... у касцёле, што можа падацца наогул незразумелым. Чорт у божым храме? Так, верылі, што "касцельны чорт" у час імшы назірае, хто як моліцца і як паводзіць сябе ў час малітвы, а ноччу лётае вакол царквы, баронячы ўваход у яе. Справа ў тым, што чорта, канешне, лічылі цёмнай сілай, яго баяліся, аднак і верылі ў яго справядлівасць. Так, вядомы беларускі этнограф М.Федароўскі зазначыў наступнае: "Паводле ўяўленняў беларускага народа, Д'ябал прывык толькі ненасытную прагнасць багатых люта ўтаймоўваць; на народны погляд, да сапраўды бедных ён заўсёды літасцівы і, як надараецца магчымасць, шчодра ім дапамагае. На карысць таго, што Сатана больш абгавораны, чым на самой справе злы, гаворыць і тая акалічнасць, што ён звычайна бывае гасцінны, таварыскі, любіць запрашаць людзей на вяселлі і гулянкі, на якіх есць, п'е і гуляе з імі, як на добрага кампанейца патрапіць." (Дарэчы, успомніце і рускую прымаўку: "Не так страшен чорт, как его малюют.") Таму, напэўна, беларусы і дапускалі чорта ў такія свяшчэнныя месцы, як касцёл ды студня.

У беларускай вёсцы калодзежы звычайна будавалі самі сяляне — адна студня на некалькі двароў, толькі некаторыя гаспадары ў сядзібе мелі ўласны калодзеж. Па канструкцыі вылучаліся розныя тыпы студняў. Найбольш старажытны і прымітыўны спосаб пад'ёму вады з калодзежа — гэта пры дапамозе шаста з вядром. Такія студні сустракаліся ў асноўным у Падняпроўі. Таксама вельмі старажытным з'яўляецца і так званы калодзеж-"жураўель". Выявы гэткіх студняў можна бачыць ужо ў мініяцюрах XVII — XVIII стст. А гісторыя гэтай канструкцыі сягае ажно ў часы старажытнага Егіпта. Калодзеж-жураўель уяўляў сабою высокі слуп, да якога мацаваўся доўгі рычаг. З дапамогай рычага выцягвалася вядро з глыбокай студні. Па сваім сілуэце гэткая канструкцыя сапраўды нагадвала вялікую птушку жорава.

Больш позняй і больш дасканалай з'яўляецца канструкцыя студні з калаўротам.

Вылучаюцца таксама розныя тыпы калодзежных праёмаў. Цікавы так званы калодзеж-"кайдуб", распаўсюджаны ў мінулым асабліва на Палессі. Ён уяўляў сабою глыбока ўкапаны ў зямлю ствол тоўстага дуба з выбраным стрыжнем. На поўначы Беларусі, дзе ледавік пакінуў шмат валуноў рознага памеру, былі распаўсюджаны калодзежныя праёмы, складзеныя з камянёў. Выкладвалі калодзежныя ямы ў Беларусі таксама вертыкальнымі бярвёнамі, якія размяшчаліся ў некалькі ярусаў, і гарызантальнымі плахамі з вертыкальнымі слупамі ў чатырох кутах. Але найбольш дасканалай і распаўсюджанай з'яўлялася зрубная канструкцыя калодзежнага праёма. У гэтым выпадку бярвёны звязваюцца па вуглах замкамі, як пры пабудове хаты, тры-чатыры ж вянца зруба выводзяцца наверх, складаючы надземную частку студні. У апошні час усе апісаныя тыпы калодзежнага праёма ў асноўным замяніла новая канструкцыя з выкарыстаннем бетоннага кальца.



У старой беларускай вёсцы студня была не толькі ўтылітарнай канструкцыяй для пад'ёму вады, але, як мы ўжо паказалі, яшчэ і пэўным сакральным, абрадавым аб'ектам. Але і гэтым не абмяжоўваліся яе функцыі. Калодзеж нярэдка з'яўляўся таксама цэнтрам, вакол якога канцэнтравалася грамадскае жыццё сялібы, месцам зносін аднасяльчан. Студня была пунктам сустрэчы, сходаў жыхароў вёскі; тут збіралася моладзь, каб пайсці на гулянне, на розныя забавы; калодзеж быў таксама месцам, дзе, знайшоўшы зручную прычыну, маглі сустрэцца дзяўчына і хлопец, што сімпатызавалі адзін аднаму.

У сённяшняй вёсцы калодзеж страціў частку сваіх былых функцый...

**Якаў ЛЕНСУ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

*На малюнку: калодзеж з калаўротам у выглядзе невялікай вежы.*

ЛІШНЕ КАЗАЦЬ!



# АД МАКАРОНІНЫ — ДА МАЙКІ ПЕЛЕ

У сталіцы Бельгіі прыцягвае ўвагу наведнікаў музей, цалкам прысвечаны бульбе. Тут можна пазнаёміцца з гісторыяй гэтай культуры, даведацца пра рэцэпты разнастайных страў і нават... пачуць музычную п'есу, што напісана ў гонар бульбы Ёганам Себасцьянам Бахам.

Музей макарон — адзіная славутасць невялікага італьянскага горада Монтадасьё. Тут з гонарам паказваюць экспанаты, што распавядаюць пра гісторыю макароннай прамысловасці, пачынаючы з 1602 года. Наведнікам прапаноўваюцца таксама рэцэпты некалькіх тысяч страў з макарон.

У Забіцах (Валбжыхскае ваяводства) існуе адзіны ў Польшчы музей прадметаў хатняга ўжытку. Тут больш за дзесяць тысяч экспанатаў, у тым ліку самая вялікая калекцыя прасаў: больш за дзвесце розных тыпаў — ад найстаражытных, сярэдзіны XVIII стагоддзя, да сучасных электрапрасаў з тэрмарэгулятарам. Не менш цікавая і калекцыя ступак, кавамлынаў. Наведнікі з цікаўнасцю разглядаюць таксама нажніцы для падразання фіцілёў свечак, адну з першых швачных машын і ручную пральную машыну, створаную напрыканцы XIX стагоддзя.

У нямецкім горадзе Кёльне адкрыты першы ў свеце музей шакаладу. З тае пары, як амаль пяць стагоддзяў таму бабы какава трапілі з Паўднёвай Амерыкі ў Еўропу, гэта "ежа багоў" (так называлі какава ацтэкі) карыстаецца вялікім попытам. Вытворчасць шакаладнага напою і цвёрдага шакаладу мае багатую гісторыю. У музеі сабрана больш за семдзесят тысяч экспанатаў, што асвятляюць разнастайнасць вырабаў з шакаладу, іхніх пакункаў і абгортак.

Самы вялікі ў свеце музей навукі і тэхнікі знаходзіцца ў Парыжы. Велізарны будынак мае ў вышыню 47 метраў, ягоныя памеры ў плане — 110 на 270 метраў, а агульная плошча паверхаў — каля 165 тысяч квадратных метраў.

У Швейцарыі дзейнічае музей фантастыкі. У ім сабраныя творы вядомых пісьменнікаў-фантастаў усіх краін, а таксама ілюстрацыі да іх. Музей атрымлівае з ЗША, Японіі і іншых краін перыядычныя выданні, што публікуюць навукова-фантастычныя апавяданні, аповесці, раманы.

Незвычайны музей існуе ў іспанскім горадзе Табоса, дзе нібыта жыла Дульсінея, каханая Дон-Кіхота. Гэта адзіны ў свеце музей кахання. У ліку ягоных экспанатаў знаходзяцца, у прыватнасці, сярэднявечныя рэцэпты любоўных напояў і ўзоры зёлак, з якіх яны выраблялiся.

Музей, прысвечаны металургіі старажытнага Кітая, дзейнічае каля горада Чжэнчжоу, адміністрацыйнага цэнтра правінцыі Хэнань. Тут, у мястэчку Сіян, падчас археалагічных раскопак былі знойдзены плавільня і кузня, што існавалі дзве тысячы гадоў таму ў часы імператарскай дынастыі Заходняя Хань. Знойдзены фрагменты плавільных печаў і горна, сельскагаспадарчыя прылады, каменныя формы для атрымання адлівак. Спецыялісты лічаць, што адна такая печ магла даваць штодня каля адной тоны металу.

Музей конегадоўлі створаны ў Маскве пры Ціміразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі. Ён валодае унікальным зборам твораў мастацтва, прысвечаных каню, роўнага якому няма нідзе ў свеце. Тут экспануюцца каля трох тысяч арыгінальных твораў Сурыкава, Врубеля, Паленава, Сярова, Грэкава і многіх іншых рускіх і замежных мастакоў.

Дзесяткі тысяч экскурсантаў штогод прываблівае музей абутку ў чэхаславацкім горадзе Готвальдаве. Сярод "кур'ёзных" мадэляў, што прадстаўлены ў ягонай экспазіцыі, можна сустрэць шлюбныя чаравікі з пер'я аўстралійскага страуса эму, драўляныя "гета" японскага самурая, макасіны канадскіх індзейцаў пачатку мінулага стагоддзя, велізарных памераў спартыўны абутак, прылады і станкі — сведкі развіцця абутковай прамысловасці.

У 1986 годзе ў пасёлку Новая Расна — цэнтры калгаса "Савецкая Беларусь" (Камянецкі раён Брэсцкай вобласці) адкрыўся музей хлеба. Усе матэрыялы музея выказваюць думку навукоўца-аграрніка К.Ціміразева: "Луста добра спечанага хлеба ўяўляе адно з найбуйнейшых вынаходніцтваў чалавечага розуму". Тут прадстаўлены маленечкія каласкі дзікай пшаніцы, жыта, ячменю, дакументы аб барацьбе за хлеб і беражлівае яго выкарыстанне. Распавядаецца таксама пра першых энтузіястаў стварэння новага калгаснага жыцця ў тутэйшых вёсках. Музей хлеба размесціўся ў прыгожым трохпавярховым будынку.

У горадзе Арцёмаўску (Данецкая вобласць) пры Усесаюзным навукова-даследчым інстытуце солі таксама ёсць свой незвычайны музей. Тут сабраныя ўзоры солі, што здабываецца ва ўсіх кутках нашай планеты.

Больш за пяць тысяч валуноў ледніковага паходжання прадстаўлены ў музеі камянёў каля літоўскага горада Скуодаса.

Грашовыя знакі першых гадоў Савецкай рэспублікі, аблігацыі ўнутраных пазык — усё гэта можна ўбачыць у музеі працоўнай і баявой славы банкаўскіх работнікаў РСФСР у Маскве.

На беразе ракі Істры, за 55 кіламетраў ад Масквы, з'явілася старажытная вёска — музей драўлянага дойлідства цэнтральных абласцей Расійскай Федэрацыі. Тут сялянскія хаты-пяцісценкі, царква, свіран, лазні, ветравыя млыны, пуні, заезныя дамы і іншыя пабудовы, што былі характэрныя для рускіх вёсак Падмаскоўя, Ленінградскай, Валагодскай, Калінінскай і іншых абласцей Расіі.

У Калузе адкрыўся музей, прысвечаны... запалцы. Якіх толькі запалак няма ў калужскім музеі! Вялікія — для распальвання каміна і мініяцюрныя, усяго ў два сантыметры даўжынёй, сігнальныя, што гараць полымем розных колераў, і тыя, што не гаснуць у дождж і пры моцным ветры. У спецыяльным аддзеле музея — запалкі розных краін: італьянскія — зробленыя з паперы, французскія — з воску...

Самы паўночны музей на тэрыторыі СНД — у горадзе Певеку. Ягоныя экспанаты распавядаюць пра гісторыю горада і Чаўнскага раёна. Тут можна ўбачыць наскальныя малюнкі, нацыянальнае адзенне чукчаў, карэнных жыхароў гэтых мясцін. Шматлікія экспанаты знойдзены падчас археалагічных і этнаграфічных экспедыцый.

У горадзе Кяхта (Бурацкая рэспубліка) створаны музей "Расійскія геаграфічныя адкрыцці ў Цэнтральнай Азіі". Гэты горад звязаны з імёнамі выдатных вандроўнікаў У.Обручава, М.Пржэвальскага, Г.Патаніна, П.Казлова і іншых. Нашчадкі знакамітых навукоўцаў перадалі сюды іх асабістыя рэчы, кнігі, розныя дакументы.

Адзіны ў свеце музей Чырвонага Крыжа адкрыты ў Маскве. Ягоныя стэнды распавядаюць пра ганаровых донараў, пра супрацоўнікаў Чырвонага Крыжа, якім нададзена званне Героя Савецкага Саюза, пра шпіталі Чырвонага Крыжа ў розных краінах, пра дапамогу ахвярам цыклонаў, землятрусаў і іншых стыхійных бедстваў.

У Ігарцы рэканструюецца музей вечнай мерзлаты. У ягонай падземнай частцы размесціцца зала з экспазіцыяй ландшафтаў паўночнай прыроды і экспанатамі рэдкіх жывёл і раслін. Там жа знаходзяцца матэрыялы, прысвечаныя даследчыкам Поўначы, гісторыі мярзлотнай станцыі.

Узоры самавараў, што выраблены за два стагоддзі, сабраныя ў музеі тульскага завода "Штамп". Тут каля трохсот экспанатаў — самавары рознай формы, памераў.

Пад аркай Неўскай брамы Петрапаўлаўскай крэпасці ў Санкт-Пецярбургу размесціўся музей паводак. Самыя цікавыя ягоныя экспанаты — мармуровыя і металічныя дошкі, што адзначаюць узроўні найбольшага ўздыму вады падчас буйных паводак: 1752, 1777, 1824, 1929 і 1975 гадоў. Побач — тлумачальны тэкст.

Музей грамадскага харчавання створаны ў Маскве. Тут наведнікі могуць любавацца знакамітай кузняцоўскай парцэлянай і іншымі рэдкімі рэчамі. Аматары старажытнасці маюць магчымасць пазнаёміцца з меню рэстаранаў пачатку стагоддзя. У гэтай жа зале — іншыя прадметы, што адносяцца да дарэвалюцыйнага перыяду і першых гадоў Савецкай улады: разнастайныя формы для паштэтаў і тварагу, усемагчымыя нажы і відэльцы, дошкі для пернікаў. У залах музея можна ўбачыць ежу для касманаўтаў, сучаснае абсталяванне буйных сталовак, іхнюю сервіроўку.

Хіба не цікава даведацца, як сустракалі Новы год, скажам, сто гадоў таму? Безумоўна, наведнікі гэтага унікальнага музея ў асноўным дзеці. Ягоныя экспанаты распавядаюць пра... Новы год. Музей размесціўся на востраве Хіюмаа (Эстонія).

Бываюць музеі і іншага кшталту. Так, у Мюнхене (Нямеччына) існуе ісламскі музей са "свяшчэнным зубам прарока", некалькімі валаскамі з "ягонай барады" і "асабістым лістом" Магамета да ўладара Эфіопіі.

У англійскім горадзе Трынку можна знайсці музей вошай, заснаваны мільянерам Чарльзам Ротшыльдам. У ім экспануецца каля дзвюх тысяч відаў гэтых "мілых" насякомых...

У Каўнасе дзейнічае музей чарцей. У 1960 годзе літоўскаму мастаку Антанасу Жмуйдзінавічусу падарылі драўляную фігурку чорта з жартаўлівым надпісам: "Каб табе ўсё жыццё чарцей збіраць". Праз некалькі гадоў калекцыя ператварылася ў сапраўдны музей. На трох паверхах будынка, што размесціўся побач з домам-музеем гэтага мастака, жыве "нячыстая сіла": драўляныя фігуркі чарцей і чартовак, забаўныя чарцяняты са шкла і парцэляны, плюшавыя д'яблы і сатана з тканіны. Спецыяльная зала аддадзена "чарцям-замежнікам", што дасланыя альбо прывезеныя ў якасці падарункаў з розных краін свету.

У Англіі ёсць музей, прысвечаны футболу. Аматары гэтага віду спорту могуць паглядзець там 15-хвілінныя стужкі пра выдатныя матчы мінулага, фатаграфіі, што адлюстроўваюць гісторыю футбола. У музеі ёсць залы з васковымі фігурамі знакамітых ігракоў. Не пералічыць і трафеяў — вымпелы, кубкі. У музеі таксама знаходзіцца майка легендарнага Пеле.

**Музеі наведваў**
**Іван ШПАДАРУК**

### *АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ "МУЗЫКА", НАДРУКАВАНУЮ Ў № 10.*

**Па гарызанталі:** 1.Мара. 4.Акорд. 7."Хаваншчына". 11.Пукст. 14.Кастаньеты. 18.Ігар. 20.Лекок. 22.Ігра. 23.Аўтар. 24.Эрата. 25.Рангі. 26.Опус. 27.Капельмайстар. 28."Арлекіна". 29.Балет. 30.Туба.

**Па вертыкалі:** 2.Рэчытатыў. 5.Канцанета. 6.Рэгістр. 8.Альмавіва. 10.Нікалаева. 12.Ура. 13.Саркісьян. 17.Елізар'еў. 19.Рупар. 21.Калок.

**Па зігзагу:** 3.Агогіка. 4."Анджэла". 9.Чэрні. 15.Альбарада. 16.Адчуванне.

## ВЯЛІКІЯ ЖАРТУЮЦЬ...

Італьянскі спявак Матыя Батыстыні нават пасля 60-гадовага знаходжання на опернай сцэне захаваў усю моц і гібкасць голасу, шырыню дыхання, што нязменна выклікала ў ягоных слухачоў захапленне і здзіўленне. Пасля чарговага паспяховага выступлення ён згадзіўся даць інтэрв'ю:

— Я цэлых дваццаць шэсць зім пражыў у Расіі. А вы, мабыць, цудоўна ведаеце, што лёд выдатна захоўвае ўсё, што хочаце, — І Батыстыні весела засмяяўся.

Сярод артыстаў разгарэлася спрэчка, што сабой уяўляе мастацтва. Фёдар Іванавіч Шаляпін незаўважна знік у суседнім пакоі, адкуль раптам адчыніў дзверы, стаў на парозе смяротна збялелы, з ускудлачанымі валасамі, дрыжачымі губамі, поўнымі жаху вачыма і вымавіў:

— Пажар!

Узнялася паніка, крыкі... Але Шаляпін раптам засмяяўся:

— Цяпер вам зразумела, што такое мастацтва?..

Вядома ж, ніякага пажару не было.

Бацька Шаляпіна меў пэўнае меркаванне пра акцёрскія захапленні сына. Ён казаў яму:

— У прыбіральшчыкі табе, Федзя, трэба ісці, а не ў тэатр. Тады і будзе ў цябе кавалак хлеба...

У Шаляпіна быў сакратар і памочнік — Пётр, які аберагаў спевака ад навязлівых журналістаў і тэатральных крытыкаў. Падчас паездкі па Еўропе да спевака ў гатэль прыйшоў крытык. Яго сустрэў Пётр:

— Фёдар Іванавіч зараз заняты. На ўсе вашыя пытанні магу адказаць я.

— Якія планы Шаляпіна на бліжэйшую будучыню?

— Мы едзем у Мілан, дзе будзем спяваць у "Ла Скала", потым дадзім у Лондане канцэрт у гонар англійскай каралевы, потым...

— Усё выдатна, Пётр! Толькі не забудзься ўзяць мяне з сабой, — загрымеў голас Шаляпіна з суседняга пакоя.

У пецярбургскім цырку паспяхова праходзілі выступленні артыста-дрэсіроўшчыка Анатоля Дурава. Вялікі поспех меў ягоны атракцыён — дрэсіраваныя свінні. Аднойчы самазадаволены высокі чыноўнік прыйшоў на відовішча са сваёй маладой жонкай. У гэты час ля касы аказаўся А.Дураў. Чыноўнік нахабна папытаўся ў яго:

— Скажыце, а свінні будуць?

— Калі вы набудзеце квіток, дык будуць, — пачуў ён у адказ.

Сваёй грубасцю і дзівацтвамі вылучаўся адэскі гарадскі галава адмірал Зялёны. Неяк ён убачыў у буфеце А.Дурава і загадаў яму падняцца. Артыст і не скрануўся з месца. Адмірал кажа свайму ад'ютанту:

— Скажыце гэтаму ёлупню, што я — Зялёны.

Тады Дураў падняўся і кажа:

— Вось калі ты саспееш, тады я буду з табою размаўляць...

Падчас антракту ў цырку самаўпэўнены глядач падыходзіць да Уладзіміра Дурава і з'едліва пытаецца ў яго:

— Маеш поспех, пан клоун?

— Як бачыш...

— А ці праўда, каб паспяхова выступаць у цырку, клоуну трэба мець дурны твар?

— Праўда. Калі б у мяне была такая фізіяномія, як у цябе, дык мне б выплочвалі падвойнае ўтрыманне!

**Падрыхтаваў**
**Іван ШПАДАРУК**



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 20.03.97. у 17.00.

Меркаванні аўтара могуць не адлюстроўваць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3514
Замова 1615
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**